—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
17
СТУДЗЕНЯ
1992 г.
№ 3 (3621)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)



Лёс талонны, Богам кляты,
А ў парламенце — вайна.
Там шчыруюць дэпутаты:
«Весь вопрос — подъём села!»

Ну, а вёска на прыгорку,
Ля рачулкі-ручая,
Пасылае сала ў горад
Да каляднага стала.

З ім умяўшы хлеба бохан,
Наш руплівец-дэпутат
Хутаранцу скажа «З Богам!»,
А не — «Асадзі назад!»
Снег прыкрыў людскія хібы

На знявечанай раллі.
Будзе год нам урадлівы
На законы аб зямлі!

**Міхась ЖЫЛІНСКІ.**

Фота аўтара.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# НОВЫ ЧАС І НОВЫЯ АДНОСІНЫ

Паважаная рэдакцыя!

Дазвольце праз вашу газету задаць пытанне рэдактарам рэспубліканскіх, абласных і мясцовых газет, чаму яны так узмоцнена тарпедзіруюць пастанову Вярхоўнага Савета рэспублікі аб наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай. Хіба гэта не парадокс? Я абсалютна не памыляюся адносна таго, што такога не сустрэнеш ні ў адной з рэспублік былога Савецкага Саюза, якія сталі дзяржавамі. А гэта — зусім іншы статус. Дзяржава ёсць дзяржава, з адпаведнымі прававымі нормамі, не гаворачы ўжо аб маральных прынцыпах.

Ці ўсведамляюць шаноўныя рэдактары, што калі народ губляе сваю мову, сваю культуру, то знікае яго самабытнасць, знікае ён сам як нацыя? Калі б перад складальнікамі кнігі Гінеса паўстала пытанне знайсці такі народ, такую дзяржаву, дзе так цураюцца сваёй роднай мовы, дык гэта была б наша Беларусь. І ў значнай ступені ў гэтым вінаваты і некаторыя рэдактары газет. Ну як гэта зразумець? Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі спадар Шушкевіч выступае са зваротам да жыхароў Беларусі на роднай мове з нагоды Новага, 1992 года (трэба адзначыць, што гэта было ці не першае такое выступленне кіраўніка Беларусі на мове свайго народа з дваццатых гадоў), а газеты «Белорусская Нива» и «Советская Белоруссия» друкуюць яго на рускай мове. І не паленаваліся перакласці! Калі браць асабіста мяне, то я з тых беларусаў, якія ў паўсядзённым жыцці карыстаюцца рускай мовай. Гэта звязана з тым, што я жыву ў Расіі, што жонка мая — руская. Але ж не згубіў пачуццё нацыянальнай годнасці, як рэдактары тых газет, аб якіх ідзе размова. Асабліва гэта датычыцца рэдактара газеты «Белорусская Нива». Дарэчы, у гэтай назве — яўны парадокс. Мяркуючы па назве, газета павінна б выдавацца на мове таго народа, якому адрасуецца. Яе чытаюць пераважна вясковыя жыхары, а менавіта яны — не выракліся роднай мовы.

На мой погляд, шаноўныя рэдактары не звяртаюць увагі на тое, што за вокнамі іншы час і іншыя патрабаванні, іншыя адносіны беларускага народа да сваёй роднай мовы, да свайго мінулага, да сваёй нацыянальнай свядомасці.

Вось якія ўзніклі ў мяне думкі, калі я, будучы ў навагоднія святы на роднай Гомельшчыне, пабачыў рэспубліканскія газеты, дзе было надрукавана выступленне С. С. Шушкевіча.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**
Мурманская вобл.,
г. Манчагорск.

# ПРАВАСЛАЎЮ НА БЕЛАРУСІ—1000 ГАДОЎ

**У верасні 1992 года Беларуская Праваслаўная Царква святкуе сваё тысячагоддзе. З нагоды свята сінод Беларускага Экзархата прыняў пасланне да вернікаў і пастыраў, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:**

**1000 гадоў назад, у 992 годзе пераможны голас Евангельскай пропаведзі пра збавенне ў Хрысце ва ўсёй паўнаце сваёй дасягнуў нашай Бацькаўшчыны. І таму, дарагія суграмадзяне, 1992 год нам з вамі — год юбілейны, святочны, дабраславёны.**

**Заснаванне Полацкай епархіі дало пачатак не толькі царкоўнаму ўладкаванню на Беларускай зямлі, але з'явілася і найважнейшай пачатковай падзеяй у грамадзянскай гісторыі Беларусі. З утварэннем епіскапскай кафедры Полацк стаўся духоўным цэнтрам, з якога пашыралася святая хрысціянская вера — аснова маральнага адраджэння беларускага народа; пачынаючы з яго, Полацка, пайшла свая школа храмабудаўніцтва, асветы, настаўніцтва і рамёстваў.**

**Ужо ў 90-х гадах X стагоддзя пачало зараджацца ў Полацкай зямлі паслушніцкае жыццё, якое праз кароткі час дасягнула нечуванага росквіту. Сярод першых яго сейбітаў па годнасці стаіць імя прападобнай Еўфрасінні, ігуменні Полацкай, якая «яко луча солнечная просветила землю Полотскую». У далейшым два стагоддзі праславіліся святасцю свайго жыцця свяціцеля Міна, Дзіянісій і Сімяон, епіскапы Полацкія.**

**Заснаванне Полацкай епархіі адначасова з дзяржаўным будаўніцтвам сцвярджала ў гэтым княстве яго самастойнасць і паступова ўводзіла яго пад імем Белай Русі ў сям'ю еўрапейскіх народаў.**

**Пашыраючы хрысціянства ў старажытнабеларускіх землях, Праваслаўная Царква кіравалася ўсходняй традыцыяй, якая ўзыходзіць да святых роўнаапостальных Мяфодзія і Кірыла, настаўнікаў славянскіх. Гэтая традыцыя мае ў аснове захаванне і развіццё нацыянальнай культуры і мовы, што дае магчымасць усім народам успрымаць і выказваць слова Божае на іх роднай мове і што па-майстэрску пацвердзіў сваім перакладчыцкім і выдавецкім подзвігам славуты сын горада Полацка Георгій-Францішак Скарына. Так Кірыла-Мяфодзіеўская мова сталася найважнейшым сродкам евангельскай асветы і самабытнага развіцця продкаў усіх славянскіх народаў. І сёння яна ляжыць у аснове літургічнай мовы нашай Царквы, сведчачы пра спаконвечную гістарычную і духоўную супольнасць беларускага, рускага і ўкраінскага народаў.**

**Насталы год будзе нялёгкім выпрабаваннем. Але згадаем мужнасць нашых святых суайчыннікаў, у зямлі Беларускай распрамененых, і пастараемся прыпадобніцца ім у веры і праведнасці жыцця...**

**Мы спадзяёмся, што ў нашых урачыстасцях, якія адбудуцца 25—27 верасня, возьмуць удзел праваслаўныя хрысціяне з іншых дзяржаў і замежных краін, каб адзіным сэрцам і адзінымі вуснамі сведчыць на старажытнай зямлі Белай Русі паўнату ісціны, святасці і міласці, якімі жыве Святая Праваслаўная Царква.**

**ФІЛАРЭТ, Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі; МАКСІМ, архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі; КАНСТАНЦІН, епіскап Брэсцкі і Кобрынскі; ДЗМІТРЫЙ, епіскап Полацкі і Віцебскі; СТЭФАН, епіскап Пінскі і Лунінецкі, АРЫСТАРХ, епіскап Гомельскі і Мазырскі.**

# АСОБАЯ МІСІЯ

На мінулым тыдні на Беларусі пабываў спікер па пытаннях абароны фракцыі ХДС-ХСС у бундэстагу ФРГ Бернд Вінц. Прыехаў ён па запрашэнні Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» разам з калегамі — дэпутатамі, якія прадстаўлялі Сацыял-дэмакратычную і Свабодную дэмакратычную партыі. Госці з Германіі перадалі ў Бялынічах 5 тон гуманітарных грузаў для пацярпеўшых ад Чарнобыля.

Візіт Вінца не быў, аднак, чыста дабрачынным. Яго праграма была разнастайнай і насычанай.

Дзеяч хрысціянска-дэмакратычнага саюза Германіі сустрэўся з прадстаўнікамі Хрысціянска-дэмакратычнай злучанасці Беларусі М. Арэшкавым і А. Бембелем. На сустрэчы, у прыватнасці, абмяркоўвалася магчымасць дапамогі гэтай грамадскай хрысціянскай арганізацыі за кошт сродкаў з фонду Конрада Адэнаўэра.

Па запрашэнні Патрыяршага Экзарха Беларусі мітрапаліта Філарэта Б. Вінц пабываў на богаслужэнні ў Мінскім кафедральным саборы з выпадку Раства Хрыстова, дзе госцю была прадастаўлена магчымасць звярнуцца да праваслаўнай паствы.

Пад час сустрэчы Вінца са старшынёй фонду народным дэпутатам Беларусі Г. Грушавым размова ішла аб сумесным праекце, згодна з якім мяркуецца накіроўваць маладых людзей з Беларусі ў Германію, дзе яны змогуць бясплатна вучыцца на медыкаў, будаўнікоў, фермераў.

На заканчэнні свайго візіту Б. Вінц даў прэс-канферэнцыю. У сваім выступленні перад журналістамі спікер фракцыі бундэстага падкрэсліў асобую місію Германіі ў дачыненні да народа Беларусі, які панёс столькі страт і пакут у час мінулай вайны. Разам з тым Б. Вінц выказаў здзіўленне ў сувязі з пасіўнасцю, якую, паводле яго слоў, праяўляе кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь у развіцці адносін з Германіяй, падтрыманні разнастайных кантактаў з буйнейшай еўрапейскай дзяржавай на ўсіх узроўнях. Гер Вінц, напрыклад, так і не змог зразумець, чаму ніхто з высокапастаўленых асоб у беларускім парламенце ці МЗС не пажадаў сустрэцца з германскім палітыкам. Выключэннем стала сустрэча з міністрам па справах абароны П. Чавусам, з якім у Вінца адбылася неафіцыйная гутарка.

Спікер па справах абароны выказаў на прэс-канферэнцыі свой погляд на ваенна-стратэгічныя праблемы. На яго думку, зброя, якая не падлягае знішчэнню паводле савецка-амерыканскага дагавору па стратэгічных ядзерных узбраеннях (а яе застанецца не так і мала), павінна быць выведзена з тэрыторыі Украіны і Беларусі ў Расію. Гэта, па яго словах, развеяла б многія апасенні на Захадзе.

Б. Вінц сустрэўся таксама з прадстаўнікамі Фонду сацыяльнай абароны ваеннаслужачых Беларусі. У ходзе яе ён паведаміў аб вылучэнні 2 мільёнаў марак для вайскоўцаў, якія служаць зараз у Германіі. Гэтыя сродкі пойдуць на іх перанавучанне па грамадзянскіх спецыяльнасцях.

**НАШ КАР.**

## З ПОШТЫ ТЫДНЯ

**Традыцыі ананімнай літаратуры на Беларусі — найвялікшыя. Не змаглі парушыць іх і перабудова з галоснасцю разам. Днямі ў рэдакцыю прыйшоў ліст з чарговым ананімным творам і прыпіскай: «Тэрмінова ў нумар!» Што ж, выконваем... Спадзяёмся, аднак, што аўтару не ўдасца схавацца за псеўданімам і гадоў гэтак праз сто даследчыкі літаратуры назавуць ягонае сапраўднае імя.**

**Аўгустын РАСКАПЭНДА-БАБЭЦКІ**

## Песня пра вялікіх заспанцаў

**Кажуць, шмат заспанцаў**
**Ёсць сярод іранцаў —**
**Радуюцца крошкам са стала.**
**Ды такіх, як нашы,—**
**Форменных заспанцаў**
**Не сцярпеў бы іх аятала.**

**Кажуць, шмат прыдуркаў**
**Ёсць на землях туркаў —**
**Шкода ім асманскага ярма,**
**Ды такіх, як нашы,**
**Ёлупняў-прыдуркаў**
**І сярод затурканых няма.**

**Кажуць, пустаплясаў**
**Шмат у папуасаў —**
**Імпартныя цацкі ім дай-дай!**
**Ды такіх, як нашы,**
**Блазнаў-пустаплясаў**
**Не знайсці і ў Афрыцы, бадай.**

**Кажуць, ахламонаў**
**Бачылі ў манголаў,—**
**Гэта беспардонная хлусня,**
**Бо такіх, як нашы,**
**Цюхцяў-ахламонаў**
**Там кідаюць вобземлю з каня.**

**Кажуць, асталопаў**
**Шмат у эфіопаў,—**
**Ідалаў там ставяць, сапраўды.**
**Дый яны смяюцца**
**З нашых асталопаў:**
**Эфіоп іх, кажуць, растуды!**

**Слухайце, прыдуркі,**
**Блазны, асталопы:**
**Як вы дапусцілі-давялі,**
**Каб у самым цэнтры**
**Матухны-Еўропы**
**Гэтак не па-людску мы жылі!..**

**Заўвагі аўтара.** 1. Мелодыю на гэты тэкст узяўся пісаць кампазітар Дамінік Корч-Неасмалоўскі. Пакуль ён гэта зробіць — песню можна пець на матыў знакамітага колісь шлягера «Здравствуй, моя Мурка, чорная тужурка!..»

2. Ганарар за публікацыю прашу пераслаць на рахунак ТБМ імя Ф. Скарыны.

## Гучыць «Пагоня» ў Маскве

**У канферэнц-зале Саюза пісьменнікаў па вуліцы Вароўскага, 52 адбыўся прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча семінар, які правялі сумесна Інстытут літаратуры імя А. М. Горкага, Савет па беларускай літаратуры і Асацыяцыя беларусістаў Масквы. Розныя прагучалі выступленні, але была і агульная тэма: творчая загадка «паэта-дзіцяці», як назваў яго А. Адамовіч, падкрэсліўшы гэтым дзіўную чысціню твораў М. Багдановіча.**

**Уладзімір Конан паведаміў аб астральных матывах лірыкі М. Багдановіча; Генрых Міцін — аб каханні і смерці ў творчасці паэта; Віталь Крыкуненка расказаў пра сувязь з Украінай і ўкраінскай літаратурай; Таццяна Сотнікава — аб патаемнасці мастацкага ўсведамлення.**

**Аляксей Каўка, які вёў семінар, закончыў сваё выступленне аб маштабнасці вобраза-метафары «Пагоня» проста і па-паэтычнаму пранікнёна: «...з намі застаецца Паэт і слова яго — Паэзія».**

**У. СОТНІКАЎ.**

**ГАЗЕТА — ЧЫТАЧ — ГАЗЕТА**

# «ПАМЕР ШПОРАЎ ПРОСТА ПУЖАЕ...»

Прачытаўшы нататку сп. Васілеўскага і пабачыўшы канчаткова зацверджаны варыянт дзяржаўнага герба Беларусі, не здолеў не ўтрымацца ад допісу. Выклікаюць па меншай меры здзіўленне пэўныя разважанні аўтара са спасылкамі на геральдычную навуку і энцыклапедыі. Як кожная навука, геральдыка патрабуе прафесіяналізму і ведаў, а не каля-навуковых разважанняў. «Геральдыка мае свае законы. Згодна аднаму з іх, рух у гербавых выявах перадаецца ўмоўна». Цікава, як можна перадаць рух у малюнку не ўмоўна?

Так, геральдыка мае свае правілы і паняцці. Дык вось, у адносінах да геральдычнай выявы каня ёсць такія: 1. Ідучы альбо шэствуючы; 2. Бягучы; 3. Скачучы; 4. Вольны альбо гуляючы (калі не асядланы). І, нарэшце, у французскай геральдыцы ёсць спецыяльны тэрмін пра каня на дыбках.

Герб, які зацвердзіў ВС РБ, з'яўляецца **скачучым,** а каб перадаць імклівасць, патрэбен конь бягучы. І няма тут ніякіх супярэчнасцяў, што ж тычыцца каня-помніка, дык якраз з зацверджанага герба ён яго і нагадвае.

Згадкі і пужанне мангольскім гербам выглядаюць смешнымі. Шаноўны аўтар, дасведчаны ў геральдыцы, не заўважыў тае акалічнасці, што памеры вершніка і плафона (у мангольскім гербе няма шчыта) проста не стасуюцца. А гэта з'яўляецца адным з правілаў гербазнаўства. І таму іхні герб не зусім удалы.

Словы ж аб тым, што няма ніводнага дынамічнага герба, нельга сур'ёзна ўспрымаць, бо ў свеце налічваецца як мінімум 200 тысяч гербаў, і проста немагчыма сцвердзіць, што сярод іх няма ніводнага, які адпавядаў бы канонам дынамікі.

Яшчэ адну акалічнасць нельга пакінуць па-за ўвагай. Гэта форма крыжа на шчыце. У нас ён мае назву патрыяршы, у Францыі — латарынгскі (з'яўляецца нацыянальным сімвалам Латарынгіі, як і патрыяршы крыж на трох узгорках—у Славаччыне). Але ж наш нацыянальны сімвал — гэта **просты** шасціканцовы крыж з роўнымі перакладзінамі, які здаўна на Беларусі называюць крыжам Ярылы. Менавіта пад гэтым сімвалам ішлі ў бой жаўнеры Асобнага атрада войск БНР пад камандай генерала Булак - Балаховіча, гэты ж крыж мелі афіцэры і шарагоўцы Беларускай Краёвай Абароны на сваіх пятліцах. Крыж Ярылы, а не патрыяршы, з гонарам выкарыстоўвае за нацыянальны сімвал уся беларуская эміграцыя незалежна ад канфесій. І на гэта я з упэўненасцю спасылаюся, бо яны, у адрозненне ад нас, ніколі не забываліся на гісторыю Бацькаўшчыны.

Вядома шмат выяў «Пагоні» абсалютна розных — і сініх, і жоўтых, і фіялетавых, і на зялёным полі; вядома па два крыжы на шчыце вершніка, ёсць выява з вершнікам на шчыце, вядомы адзін выпадак з праваслаўным крыжам, але невядома ніводнай выявы з патрыяршым крыжам. І справа не ў тым, ці праваслаўны гэты крыж ці не, а ў тым, што чыесьці прэтэнзіі ўводзяць наватвор у старажытнасць. Мы ўжо маем адзін прыклад з гербам Мінска ў гарсавеце — што ніяк па-іншаму не назавеш, як прафанацыяй.

Самае дрэннае, што гэта распаўсюджваецца, і шырокае кола недасведчаных у геральдычных тонкасцях людзей будзе лічыць, што менавіта гэтак і павінна быць. Заспакойванні, што потым можна штосьці памяняць, нельга прызнаць слушнымі, бо ўсе недарэчнасці ўкараняцца ў памяці. Пойдзе шырокае выкарыстанне герба — і змяніць нешта менавіта ва ўяўленні насельніцтва будзе значна цяжэй.

Яшчэ некалькі слоў аб мастацкім афармленні, якое нельга прызнаць вартым. Мне чамусьці конь нагадвае першэрона, а не баявога каня. А памер шпораў проста пужае. Калі прыняць, што памер нагі чалавека ад ступака да калена 50 — 60 см, дык шпора ў 2/3 гэтай велічыні можа прывесці ў жах не толькі каня. Але, зрэшты, я б з цікаўнасцю паслухаў аповяд аб тым, як можна ездзіць на кані са шпорамі ў 40 сантыметраў даўжынёй...

**Уладзімір ВЯРОЎКІН,**
**студэнт гістфака БДУ.**

# ПРАЗ ГОД-ДВА...

**Нататка Уладзіслава Вяроўкіна сведчыць пра тое, што кола людзей, неабыякавых да гістарычнай спадчыны Беларусі, пашыраецца. Гэта выклікае самыя станоўчыя эмоцыі. Адно шкада, што шаноўны аўтар, відаць, па маладосці год не можа абысціся ў спрэчцы без абразы апанента. А гэта і ўвогуле лішняе, і асабліва ў дадзеным выпадку. Бо сп. Вяроўкін, як кажуць, тэмай валодае, і ягоныя аргументы адносна формы крыжа на шчыце вершніка ўяўляюцца вельмі важкімі.**

**Цяпер наконт дынамікі гербавай выявы. Падобна на тое, што пад «дынамікай» мы разумеем розныя рэчы. Я па-ранейшаму лічу, што «дынамічны» герб—гэта нонсенс. Дакладней, вонкава дынамічны. Але колькі ўнутранай дынамікі ў статычных постацях германскага і аўстрыйскага арлоў, у выявах львоў на гербах Чэхіі, Швецыі! Вось гэтага якраз бракуе нашаму гербу. Так, вершнік удала закампанаваны ў гербавы шчыт, і, здаецца, трэба зусім крыху, каб ён стаў не толькі прымальным, але і выразным. Зусім няшмат трэба, каб першэронператварыўся ў баявога каня, каб выява вершніка стала рашуча-агрэсіўнай. Усё ў мастацтве трымаецца на «крыху»...**

**Але я супраць таго, каб зараз зноў пачынаць усё спачатку і пераглядаць рашэнне ВС Беларусі аб зацвярджэнні эталонаў герба. Бо гэтак мы ніколі не развітаемся з БССРаўскім гербам. Працы наперадзе шмат: распрацоўка формы і сцягоў Беларускага Войска і Нацыянальнай гвардыі РБ, атрыбутаў прэзідэнцкай улады, удакладненне малюнкаў гарадскіх гербаў. Такім чынам, з'явіцца яшчэ не адна графічная версія Пагоні. А там, глядзіш, праз год-два сёе-тое зменіцца і ў гербе рэспублікі.**

**І апошняе. Спадар Уладзіслаў лічыць, што шпоры ў 40 сантыметраў у вершніка на гербе РБ не могуць быць, бо ён такога ніколі не бачыў у жыцці. А ці бачылі Вы ў жыцці арлоў з дзвюма галовамі (гербы Расіі, Албаніі, Сербіі), львоў з раздвоеным хвастом (Чэхія), звера аднарога (Брытанія, Канада), дракона (Ісландыя)?**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**



# Апошні з першых

Указ Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў падпісаў напярэдадні сваёй адстаўкі. Указ надаў Генадзю Аўсяннікаву званне народнага артыста СССР.

Як яго, артыста, цяпер называць, калі краіны з гэткаю абрэвіятураю ўжо няма? Як зразумець наданне гэтага звышганаровага звання: запозненым прызнаннем даўніх і бясспрэчных вартасцяў талента артыста, ці мо данінаю-ахвяраю культуры - бядотніцы, альбо, прабачце, адчэпным чыноўніцкім, маскоўска- цэнтральным жэстам — хоць і не да вас цяпер, маўляў, дынаце, радуйцеся?

Як бы там ні было, а глыбакадумнага філасофскага роздуму над званнем народнага артыста СССР, нададзеным купалаўцу Генадзю Аўсяннікаву, не атрымаецца ўжо: змяніліся варункі, час, вартасці ганаравання і г. д. Засталося нязменным адно: талент, які, на шчасце, не залежыць ні ад званняў, ні ад прэзідэнцкай літасці, ні ад дзяржаўнага падданства. Талент, якому не ставала, бадай, аднаго: свабоды духу, свабоды творчасці. Ці ж зрабілася яму вальней? Ці разняволіўся ягоны дух? А мо пачуваецца ён гэтаксама, як і ... усе? Хто, спытаеце, усе? А— народ. Той самы, званнем якога мастак, нарэшце, прылюдна-афіцыйна ганараваны.

З чым і застаецца павіншаваць — мастака разам з ягоным народам.

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**75 гадоў з дня нараджэння Мікалая ВОРВУЛЕВА, народнага артыста рэспублікі, народнага артыста СССР (памёр у 1967 г.). Выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Працаваў у Ансамблі песні і танца БВА, затым — у ДАВТе Беларусі. З 1957 г. быў салістам Кіеўскай оперы. Уладальнік чароўнага барытона, выдатны акцёр, ён быў папулярны і як оперны саліст (Дзяніс Давыдаў у «Надзеждзе Дуравай» А. Багатырова, Апанас у «Дзяўчыне з Палесся» Я. Цікоцкага, Яўгеній Анегін у аднайменнай оперы П. Чайкоўскага, Эскамільё ў «Кармэн» Ж. Бізэ і інш.), і як выканаўца песень. Славуты «Нёман» Н. Сакалоўскага — А. Астрэйкі, напрыклад, і дасюль гучыць у эфіры ў неўміручай інтэрпрэтацыі М. Ворвулева.**

●

**80 гадоў споўнілася б заслужанаму дзеячу мастацтваў рэспублікі Льву АБЕЛІЁВІЧУ. Ураджэнец Вільні, ён вучыўся там на юрыдычным факультэце універсітэта, але перапыніў заняткі, паступіўшы ў Варшаўскую кансерваторыю. Заканчваў музычную адукацыю ў Мінску, у класе прафесара В. Залатарова. Стажыраваўся ў М. Мяскоўскага (Маскоўская кансерваторыя). Кампазітар пакінуў багатую спадчыну: сімфоніі, камерна-інструментальная музыка, хоры на вершы Я. Коласа, М. Танка, Н. Гілевіча, Я. Журбы, рамансы на вершы М. Багдановіча, Я. Коласа, У. Дубоўкі, Ф. Цютчава, апрацоўкі беларускіх, рускіх, польскіх народных песень і інш. Творы Л. Абеліёвіча — у рэпертуары вядучых беларускіх выканаўцаў.**

ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ

# У ХЛУСНІ КАРОТКІЯ НОГІ

У снежні 1991 года ў двух нумарах «Навін Беларускай акадэміі» пад рубрыкай «точка зрения» быў надрукаваны вялікі матэрыял таварыша Корзуна В. П. пад доўгай назвай «Флаг над городом (как провели народных депутатов Беларуси)». Гэты матэрыял, дзе, дарэчы, згадваецца і маё прозвішча, выклікаў абурэнне многіх маіх выбаршчыкаў, якія, як і В. Корзун, працуюць у Акадэміі навук Беларусі.

Пачнём з гісторыі гэтага пытання. Пасля таго, як свядомая беларуская інтэлігенцыя, якая ў 20-я гады спрабавала гаварыць аб нацыянальнай сімволіцы, была знішчана ў Курапатах, альбо вывезена на Калыму, на тэрыторыі БССР доўгі час, амаль да канца шасцідзесятых гадоў, гэта пытанне было цалкам забаронена. Упершыню аб Пагоні, як спрадвечным беларускім гербе загаварылі нашы гісторыкі і мастакі ў 70-я і асабліва 80-я гады. Выява «Пагоні» стала змяшчацца на розных гістарычных карцінах, архітэктурных праектах аднаўлення беларускіх замкаў, на кніжных вокладках, на мастацкіх вырабах з металу, шкла і керамікі. Аднак на сцяг было накладзена партапаратам пад кіраўніцтвам сумна вядомых Антановіча і Паўлава поўная забарона. І калі мастак М. Купава ўжыў гэты сімвал пры афармленні дзіцячай кніжачкі, на малюнку з казачным замкам, цэнзура ад КПБ усчыніла страшэнны вэрхал.

Упершыню нашы сімвалы ў поўнай сваёй аздобе былі выкарыстаны 14 кастрычніка 1988 года пры афармленні залы ў Доме кіно.

І тут пачалося: усе партыйныя газеты і часопісы ў канцы 1988 і на працягу 1989 — 1991 гадоў вялі няспынную агітацыю супраць нацыянальнай сімволікі выключна па двух накірунках: сцяг — фашысцкі, а «Пагоня» — гэта літоўскі герб і да Беларусі дачынення не мае. Але чым больш ішла гэта агітацыя, тым больш беларускі народ схіляўся да сваёй занядбанай спадчыны. І таму невыпадкова, што шматтысячныя рабочыя калоны ў красавіку 1991 года прыйшлі да Дома ўрада толькі з бел-чырвона-белымі штандарамі. Ніхто не хацеў ушаноўваць сцяг, прыдуманы па загаду Сталіна, тым больш, што зялёны колер больш уласцівы мусульманскім, чым хрысціянскім краінам свету.

Трэба таксама адзначыць, што беларуская навуковая інтэлігенцыя не падтрымала цкаванне нашай сімволікі, выступіла ў яе падтрымку, альбо, калі перашкаджалі высокія партыйныя пасады, займала нейтральную пазіцыю. Ведамству Паўлава ўдалося мабілізаваць на гэту нікчэмную справу толькі невялікую купку псеўдавучоных, якія ніколі не займаліся пытаннямі геральдыкі і сфрагістыкі, альбо зусім неадукаваных у гэтай справе людзей. Сярод гэтай «ударнай групы» заўсёды вылучаўся і таварыш Корзун.

Не будзем доўга спыняцца на аргументах, пададзеных у яго матэрыялах, бо яны не вытрымліваюць ніякай навуковай крытыкі. Хачу толькі адаслаць чытачоў газеты да зборніка навуковых работ пад назвай «З гісторыяй на Вы», што выйшаў нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Раю таксама і таварышу Корзуну разам з яго прыхільнікамі ўважліва прычытаць артыкул доктара гістарычных навук Міхася Ткачова «Нацыянальныя сімвалы: народ і гісторыя», а таксама Вінцука Вячоркі «Кроў лягла чырвонай паласой». М. Ткачоў асабліва спыняецца на перыядзе апошняй вайны і на канкрэтных фактах паказвае, як хлусілі некаторыя партызанскія кіраўнікі ў сваіх успамінах, выконваючы сацыяльны заказ ЦК КПБ. Адначасова хачу нагадаць, што да таго, як на тэрыторыі цэнтральнай часткі акупіраванай гітлераўцамі Беларусі, па іх загаду ў мэтах прапаганды выкарыстоўвалася зрэдку беларуская нацыянальная сімволіка, фашысты ў 1933 годзе запазычылі ў бальшавікоў чырвоны сцяг, замяніўшы пры гэтым серп і молат на свастыку. Менавіта пад гэтымі сцягамі адбыліся ў верасні 1939 года сумесныя парады войск Вермахта і Чырвонай Арміі ў Брэсце і Пінску. І дарэмна т. Корзун спасылаецца на фашысцкую газету «Раніца», што выходзіла ў Берліне, бо гэта прэса хлусіла гэтак жа лоўка, як і сталінскія газетчыкі.

Здзіўляе і недавер В. Корзуна да філолага Вячоркі, які, дарэчы, скончыў аспірантуру і падрыхтаваў да абароны кандыдацкую дысертацыю. Асабліва захапляе такая рэмарка пра агульнавядомую ўсяму свету карціну XVI ст. «Бітва пад Оршай», як «неизвестно кем и когда написанную». Даводжу да ведама т. Корзуна, што ў польскай гістарычнай і мастацтвазнаўчай літаратуры на гэту тэму маецца некалькі дзесяткаў публікацый, дзе даціроўка гэтага твора канчаткова вызначана як XVI ст. і спрэчкі ідуць толькі наконт аўтара і канкрэтнага года напісання гэтага батальнага твора жывапісу.

Не мае рацыі В. Корзун, калі піша, што Літва зараз карыстаецца «Пагоняй» у выкананні Юозаса Зікарыса, зацверджанай у 1925 годзе.

4 верасня 1991 г. Літоўская Рэспубліка зацвердзіла новы варыянт свайго Дзяржаўнага герба наступнага выгляду: «Дзяржаўны герб Літвы ўяўляе сабою выяву Віціса: на чырвоным фоне гербавага шчыта вершнік у сярэбраных даспехах на белым кані, які трымае ў правай руцэ ўзняты над галавою сярэбраны меч. Каля левага пляча вершніка сіні шчыт з выяваю двайнога залацістага крыжа. Сядло каня, пагоня, вуздэчка і рамяні — сінія. Ручка мяча, цуглі, стрэмя сядла і шпора, металічныя мацаванні похваў і рыштунку каня — залатыя». Такім чынам, літоўскі варыянт «Пагоні» зараз як па колеравай гаме, так і па абрысу вершніка значна адрозніваюцца ад беларускага.

Цяпер разбяром тэзіс т. Корзуна аб «ашуканстве» народных дэпутатаў. Не трэба забываць, што большасць у Вярхоўным Савеце складаюць былыя партапаратчыкі, кіраўнікі калгасаў і прадпрыемстваў, і многія з іх, відаць, не раз чыталі «Политический собеседник», «Вечерний Минск» і другія сумнавядомыя выданні. У час прыняцця дзяржаўных сімвалаў на вераснёўскай сесіі ў дачыненні да сімвалаў быў поўны плюралізм думак. З дапамогай Саюза мастакоў і Дзяржаўнага гістарычнага музея для дэпутатаў і журналістаў была зроблена спецыяльная выстава пад назвай «Герб і Сцяг». Не спаў у шапку і супрацьлеглы бок. Сярод дэпутатаў была распаўсюджана гістарычная даведка дактароў гістарычных навук Палуяна і Лысенкі, якая «сведчыла» аб тым, што «Пагоня» — чыста літоўская з'ява. Потым яе зачытаў з парламенцкай трыбуны дэпутат Сарокін. Дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі паказвалі мне шматлікія архіўныя здымкі са спецфондаў, дзе памагатыя фашыстаў пазіравалі перад гебельсаўскімі фотакарэспандэнтамі з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам. Аднак трэба аддаць ім належнае. Паколькі яны лепей за ўсіх нас ведаюць, як тады было на самай справе, гэтыя здымкі (дарэчы, не вядома кім і за якія грошы аддрукаваныя) так і не былі выкарыстаны ў якасці апошняга аргумента. Нацыянальная сімволіка была зацверджана як дзяржаўная дзвюма трэцімі галасоў (канстытуцыйнай большасцю). Былі пэўныя спрэчкі і ў снежні 1991 г., калі прымаліся палажэнні «Аб Дзяржаўным сцягу» і «Аб Дзяржаўным гербе» Рэспублікі Беларусь. Народныя дэпутаты ўнеслі канкрэтныя прапановы аб выкарыстанні нашага сцяга вайсковымі фарміраваннямі Рэспублікі Беларусь, а таксама быў уключаны пункт аб тым, каб у пакоі, дзе народны дэпутат стала прымае выбаршчыкаў, заўжды прысутнічаў бел-чырвона-белы сцяг.

Па эталоне герба «Пагоня» істотных спрэчак не было. Трэба адзначыць, што газеты «Чырвоная змена» і «Народная газета» дапусцілі памылку, калі напісалі, што народныя дэпутаты ад ветэранскай арганізацыі выказалі незадавальненне крыжам на гербе. Справа ішла не аб гербе, а аб форме металічнага наверша на сцяг, для ўрачыстага яго выкарыстання. Дэпутат Жураўлёў прапанаваў свой варыянт наверша, але большасцю галасоў прайшоў эскіз наверша ромбападобнай формы, з выявай крыжа, аналагічнай крыжу на Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь.

Пасля прыняцця гэтых палажэнняў была пастаўлена апошняя кропка на тэму дзяржаўнай сімволікі, і я раю т. Корзуну з павагай да яе ставіцца.

**Алег ТРУСАЎ,**
**намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні культурнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

# ДЗЁГЦЕМ ПА СВЯТЫНЯХ

**Адгукнуцца на чарговую гнюсную інсінуацыю ў друку вымусіла мяне, грамадзяніна суверэннай Беларусі, абразлівая публікацыя ў газеце «Навіны Беларускай акадэміі» «Флаги над городом» вядомага непрыяцеля беларускага нацыянальнага адраджэння В. Корзуна. Ён абвінавачвае беларускі парламент «за неимоверную поспешливость и безответственность», калі ўзаконьваў «так называемую историческую символику республики», дакарае народных дэпутатаў за «беспечность» і «легкомыслие». Новы «літаратурны шэдэўр» Корзуна перасыпаны «далікатнымі» выразамі і азначэннямі з нядобрай памяці нядаўняга шавіністычнага лексікону, накшталт: «белорусский нацист Антон Адамович», «белорусский гитлеровец президент БЦР Родослав Островский», «профашистский Союз белорусской молодежи», «опереточная «республика» і г. д.**

**«Навіны Беларускай акадэміі» я чытаю і выпісваю ўжо не першы год. Газета, увогуле, мне падабаецца разнастайнасцю цікавых матэрыялаў, дапамагае мне, аматару-краязнаўцу, у далейшай гісторыка-культурнай адукацыі. Таму мяне ўразіла непераборлівая пазіцыя шаноўнага выдання, добраахвотна ахвяраваўшага значную газетную плошчу (аж у двух нумарах) звычайнай пасквілянцкай пасрэднасці.**

**Скампраметаваць беларускае нацыянальнае Адраджэнне, якое яшчэ марудна, але ўсё-такі ўпэўнена, трывала імкне наперад, —задача, магчыма, з галоўнейшых у сённяшніх непрыяцеляў беларусізацыі. Яны і не хаваюць сваіх хіжых памкненняў і дзе толькі могуць, словам або канкрэтнымі дзеяннямі, пнуцца ўсяляк перашкодзіць станоўчаму працэсу нацыянальнага абуджэння Бацькаўшчыны.**

**19 верасня 1991 года для ўсіх махровых шавіністаў, манкуртаў і «иже с ними» з'явілася ледзяным душам у цёплае надвор'е. У гэты памятны дзень Вярхоўны Савет Рэспублікі прыняў тры жыццёва важныя гістарычныя пастановы: аб новай назве суверэннай дзяржавы — «Рэспубліка Беларусь», аб дзяржаўным сцягу — бел-чырвона-белым і дзяржаўным гербе — «Пагоня». Мне ўжо думалася, што былыя непрыяцелі беларушчыны, пад дабратворным уздзеяннем прынятых прагрэсіўных законаў, перайначыліся, зразумелі, што датуль займаліся не тым, чым трэба. Але я аказаўся наіўным чалавекам, таму і было для мяне нечаканасцю з'яўленне Корзунавых «Флагов над городом» не ў адпаведным яго мысленню выданні («Политический собеседник», «Славянские ведомости» Бумажковой), а ў шануемых «Навінах Беларускай акадэміі».**

**Ёсць апаненты, мудрыя і цікавыя людзі, з якімі і паспрачацца прыемна, а ў нечым і карысна. З Корзунам жа інакш: яго «Флаги над городом» — звычайная правакацыйная публікацыя, хворая на бяздоказнасць аргументаў, да таго ж слабая ў літаратурных адносінах. Напэўна ж, ведае Корзун і праўдзівыя рэаліі справы, але, з'яўляючыся свядомым антаганістам беларускага нацыянальнага Адраджэння, робіць усялякія захады, каб хоць танным славесным брудам запэцкаць святое значэнне ўзаконенай нацыянальнай сімволікі. А, між тым, бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», узаконеныя афіцыйна, ужо не падлягаюць крытычнаму абмеркаванню старонніх асоб, не кажучы пра ганьбаванне.**

**Думаецца, мала знойдзецца легкадумных чытачоў, якія паверуць чарговай ачарняльнай публікацыі. Дарэмна стараўся яе аўтар. Насуперак усім непрыяцелям і на радасць добрым людзям недарэмна ў светлы вераснёўскі дзень 1991 года над Беларуссю ўзвіўся ў неба жаданым гаспадаром узаконены назаўжды бел-чырвона-белы сцяг нацыянальнага Адраджэння Рэспублікі, каб ніколі больш не апускацца долу. Як і ў часіну свайго стварэння няўрымслівая «Пагоня» і сёння нясе ў сабе глыбокі станоўча-наступальны сэнс у барацьбе з нацыянальным нігілізмам і манкурцтвам, з грамадзянскай абыякавасцю, актыўна спрыяючы перамозе дэмакратычных прынцыпаў над злыбядой і чарнасоценшчынай.**

**Мікола ПЛАВІНСКІ,**
**краязнаўца.**

г. Віцебск.

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

*Есць закон чалавечай прыроды і культуры, паводле якога ўсё вялікае можа быць сказана чалавекам ці народам толькі па-свойму, і ўсё геніяльнае нараджаецца менавіта ў лоне нацыянальнага вопыту, укладу і духу. Дэнацыяналізуючыся, чалавек траціць доступ да найглыбейшых крыніц духу і да запаветных агнёў жыцця. Бо гэтыя крыніцы і гэтыя агні заўсёды нацыянальныя: у іх закладзены і жывуць цэлыя стагоддзі ўсенароднай працы, пакутаў, барацьбы, сузірання і думак. Нацыянальнае безаблічча— вялікая бяда і небяспека: чалавек робіцца бязродным ізгоем, адарваным ад глебы і бясплодным бадзягам па чужых духоўных дарогах, безабліч-ным інтэрнацыяналістам, а народ ператвараецца ў гістарычны пясок і смецце.*

*І. А. ІЛЫН.*

# НАША, БЕЛАРУСКАЕ...

**Барыс САЧАНКА**



●

Мінулае нашага народа — у курганах, крушнях замкаў, паданнях, легендах, песнях...

Што тут чынілася ў даўныя часы,
Што думалі, аб чым спрачаліся тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу,

— аптымістычна верыў багдановічаўскі летапісец. На жаль, «паперы»—летапісы, манускрыпты, старадаўнія кнігі нашы — амаль не захаваліся, яны былі спалены, знішчаны ці вывезены рознымі заваёўнікамі. І горкая, да болю крыўдная праўда ў тых словах, што аднойчы вырваліся, як уздых, стогн, з вуснаў Янкі Купалы:

Што было — мінула,
Як і не было.
У капцах паснула,
Зеллем зарасло...

**Не-не дый яшчэ і сёння пачуеш разважанні некаторых філосафаў пра народы дзяржаўныя і недзяржаўныя, гэта значыцца, тыя, хто здольны да сваіх самастойных дзяржаўных утварэнняў і хто няздольны. У якасці прыкладаў «недзяржаўных» народаў прыводзяцца армяне, якія на працягу гісторыі быццам так і не мелі сваёй дзяржаўнасці, хоць і маюць самабытную культуру, славенцаў, фламандцаў, славакаў, баскаў, каталонцаў, курдаў... Сёй-той не супраць гэты спіс папоўніць беларусамі, украінцамі... Асабліва цяпер, калі Беларусь і Украіна аб'явілі аб сваім суверэнітэце... І ніхто пры гэтым ні слова не гаворыць пра суседзяў гэтых «недзяржаўных» народаў, куды больш мнагалікіх і магутных, якія, як толькі даходзіла справа да дзяржаўнасці, душылі яе ў самым зародку агнём і мячом...**

●

Паводле сведчання філосафа І. А. Ільіна, літаратурная спадчына якога цяпер вяртаецца на радзіму, «Расія праваявала дзве трэціх свайго жыцця». «Нам дадзена было велізарнае багацце прасторы і плямён, незвязаных, несупрыналежных, якія цягнуліся хто да каго, адны прэтэндавалі на нешта, іншыя распадаліся. І цяжкія, суровыя ўмовы жыцця і барацьбы, — паведамляе ён.— Мы павінны былі стварыць у гэтых умовах, з гэтага багацця, за тры-чатыры стагоддзі адзіную вялікую дзяржаву і адну вялікую культуру». І. А. Ільін вылучае асаблівы «дар» «рускага духу і рускай прыроды» — «непринудительно и незаметно обрусевать» «людзей іншай крыві».

Падпалі пад гэты «дар» і мы, беларусы...

І не пра як бы «обустроиться», захаваць сваю мову і культуру думалася нашым дзядам і прадзедам, а як бы выжыць, не загінуць. Бо не дзе-небудзь, а менавіта ж тут, у Беларусі, як пісаў паэт, «схадзіліся народы спрэчкі зброяю канчаць». Само сабой зразумела, што асноўны цяжар гэтых збройных спрэчак клаўся на нашу зямлю, нашых людзей...

●

**Да таго, як былі далучаны землі Вялікага княства Літоўскага да Расіі, між Вялікім княствам Літоўскім і Расіяй адбылося шмат войнаў. «Ты на жизнь и смерть вела спор с Литвой», — пісаў І. Нікіцін у вершы «Русь». Здаралася, перамагала Расія, здаралася, перамагала Вялікае княства Літоўскае. Летапісы Стрыйкоўскага і Быхаўца расказваюць, як «Вялікі Князь Альгірд» са сваім войскам «на самы Вялікдзень рана... паказаўся пад Масквою на Паклоннай гары». І ўбачыўшы тое, князь вялікі Маскоўскі, «не могучы яму жаднага адпору ўчыніці», паслаў да яго паслоў, «просячы яго і вялікія дары яму абяцаючы, абы яго з Масквы не выгнаў і гнеў свой адпусціў, і ўзяў у яго, што хацеў. І Князь Вялікі Альгірд зжаліўся і ласку сваю ўчыніў, і Масквы яго не здабываў. І потым, змову ўчыніўшы, і сам князь вялікі Маскоўскі к яму выехаў, і з ім відзеўся, і дарамі многімі золата, серабра і дарагім жамчугом, і сабольмі, і іным дарагім а дзіўным зверам махнатым князя вялікага Альгірда дараваў...»**

**«І потым Князь Вялікі Альгірд са ўсімі войскі сваймі з вялікаю чэсцю і з нявымоўным дабыткам, зваяваўшы і гарады многія пабраўшы, і граніцу ўчыніў па Мажайск да па Каломну і за ўсімі людзьмі сваймі ў цэласці адыйдзе».**

**А. С. Пушкін у вершы «Клеветникам России» спрэчкі з Літвой называў «спор славян между собою, домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою». Будучы аб'ектыўным, ён пісаў, што «уже давно между собою враждуют эти племена; не раз клонилась под грозою то их, то наша сторона».**

**Тры падзелы Вялікага княства Літоўскага (1772, 1793, 1795) далучылі нецалі магутнае княства да Расіі. Але барацьба за сваю незалежнасць народаў, што ўваходзілі ў гэтае княства, тым не закончылася, яна прадаўжаецца і па сённяшні дзень...**

●

Багатая, слаўная наша гісторыя. Але яе, на жаль, у нас мала хто ведае. Рабілася ж усё магчымае, каб мы, беларусы, забылі сваё мінулае, свае карані, нават не лічылі сябе народам. І з гэтага пакарысталіся многія. Асабліва літоўцы. Пакінуўшы за сабою назву былой магутнай еўрапейскай дзяржавы, дзе самі цяперашнія літоўцы, а тады —жмудзь і аўкштоты — па колькасці насельніцтва не мелі і 10 працэнтаў, а потым, атрымаўшы доляю выпадку і былую сталіцу гэтай дзяржавы Вільню, яны прысвоілі і ўсё, што звязана з Вялікім княствам Літоўскім і Вільняй. Нават герб наваградскага князя Віценя — Пагоню. Што ж, калі беларусам гэта не трэба, дык чаму ж яно павінна прападаць... Вось толькі з мовай, на якой вялося справаводства, пісаліся дзяржаўныя акты і граматы, на якой створаны выдатны помнік сярэднявечча — Статут Вялікага княства Літоўскага, іншыя вельмі важныя дакументы, што было рабіць? Але выхад быў знойдзены — назвалі яе старарускай... Словам, насуперак усім фактам, фальсіфікатары дамагаліся свайго... А што беларусы?.. Даводзіцца, як гэта ні прыкра, прызнацца, што мы як не мелі, так і не маем на многія падзеі і факты свайго пункту гледжання, па-ранейшаму глядзім на сваю гісторыю чужымі вачыма — літоўцаў, рускіх, палякаў... І не толькі на даўно мінулае, а нават і на зусім нядаўняе. Па прыклады далёка не трэба хадзіць. Чаго толькі ні пісалі пра Кастрычніцкую рэвалюцыю! Цяпер жа, калі перамагла быццам дэмакратыя, ад усеагульнага ўхвалення і захаплення Кастрычнікам перайшлі да ўсеагульнага ахайвання. «Фатальная памылка...» «Крывавы пераварот, які спыніў наша развіццё больш як на паўстагоддзе...» «Гэтая падзея нічога не прынесла народу, апрача гора...» Не хочацца спрачацца з аўтарамі такіх і падобных выказванняў. Варта толькі нагадаць — пры царскай уладзе Беларусь была «Западно-русским краем», яе мова не прызнавалася за мову, нават саму назву Беларусь было забаронена ўжываць у афіцыйных дакументах. Лепшыя розумы нашага народа хіба што марылі пра нейкую ўяўную «аўтаномную фэдэратыўную самастойнасць у сям'і іншых народнасцей Расіі».

Цяжка сказаць, які б напаткаў лёс Беларусь, калі б не Кастрычніцкая рэвалюцыя. Але што яна самым непасрэдным чынам паўплывала на ўтварэнне спярша БНР, потым Савецкай Беларусі — гэта бясспрэчны факт. І мы, беларусы, гэта не павінны забываць...

Другая значная падзея ў жыцці нашага народа — верасень 1939 года. Упершыню ў сваёй гісторыі Беларусь аб'яднала амаль усе свае землі ў этнаграфічных межах, амаль усіх этнічных беларусаў... І што б пра гэтую падзею ні гаварылі, ні пісалі суседзі нашы, як бы ў далейшым ні адбілася яна на лёсе многіх людзей, падзея гэтая для нас, беларусаў, важная, незабыўная...

●

**У любові да маці-Беларусі кляліся ды і клянуцца многія. Але, на жаль, не для ўсіх сыноў і дачок сваіх яна стала сэнсам жыцця. Як, скажам, была для Янкі Купалы. Даведзены да жудаснай галечы, галадаючы, ён усё ж выдаваў па-беларуску «Нашу Ніву», пісаў вершы-заклікі да абяздоленага беларуса, вёў яго «з цемры да святла». У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 28.IX.1914 г. ён пісаў: «Я страшэнна находжуся ў крытычным палажэнні, так што хоць вешайся... Вы ўжо, паночку, не раз мяне ратавалі ў цяжкую мінуту, дык дапамажыце і цяпер. Інакай прыйдзецца згінуць без часу і вырачыся ўсёй беларускай справы, якая мне цяпер стала даражэй жыцця. Усю душу і ўсе сілы цяпер укладаю ў «Нашу Ніву»... Яшчэ і цяпер у мяне не топіцца ў печы і прыходзіцца калець і хварэць, бо няма за што купіць дроў. У дадатку, каб яго немач, мой кажух саўсім раскідаўся і не маю ў чым паказацца на вуліцу і злазіць у цэнзуру. Цяперака, калі Вы мне, даражэнькі паночку, дапаможаце, то буду лепей галадаць і абарванцам хадзіць, чымся дакучаць Вам сваёй просьбай... А жыць хочацца і шчыра працаваць для сваёй Бацькаўшчыны...»**

**Гэтак жа, як Янку Купалу, «даражэй жыцця» беларуская справа была Кастусю Каліноўскаму, Максіму Багдановічу, Алесю Гаруну, Ларысе Геніюш...**

**А ўсім астатнім?..**

●

Самабытнасць народа — у яго мове, гісторыі, культуры, помніках мінулага. Гэта добра ведалі ўсе заваёўнікі і заняволенне іншых народаў заўсёды пачыналі з разбурэння і знішчэння чужой ім духоўнай спадчыны, навязвання і насаджэння ўсяго свайго, у першую чаргу — мовы, культуры. Бадай ні адзін народ не спазнаў гэта на сабе ў такой жудаснай меры, як наш, беларускі.

І ўсё ж не загінуў, выжыў.

Нізка ж паклонімся яму мы, тыя, хто стаў сведкам і ўдзельнікам яшчэ аднаго новага нашага Адраджэння, надзеі на лепшую, шчаслівейшую будучыню.

●

**Ад калісьці велічнага замка ў Крэве, дзе была заключана ў 1385 годзе першая, як яе называюць, дынастычная унія між Вялікім княствам Літоўскім і Польшчаю, паводле якой польскі кароль меўся быць адначасова і Вялікім Князем Літоўскім (у кожнай з гэтых дзяржаў па-ранейшаму захоўваліся свае ўрады, войскі і скарбы), засталіся толькі муры. І тыя вось-вось рухнуць...**

**Ад гэтай уніі бяруць пачатак іншыя уніі з Польшчай — Люблінская, Брэсцкая, якія і прывялі да паланізацыі краю, заняпаду адной з самых вялікіх і магутных дзяржаў Еўропы. Што лёс гэтага помніка абыякавы беларусам, можна вытлумачыць... І ўсё ж, усё ж...**

●

«Жыва яшчэ душа ў народзе гэтым». І першы гэта зразумеў не той, каму належаць гэтыя словы, — Максім Багдановіч, і нават не Янка Купала, Якуб Колас, якія так многа зрабілі дзеля адраджэння свайго народа і Беларусі, а іх папярэднікі — Я. Чачот, У. Сыракомля, В. Дунін - Марцінкевіч, А. Кіркор, Е. Раманаў, М. Нікіфароўскі, П. Шпілеўскі, П. Бяссонаў, І. Насовіч, Ф. Багушэвіч...

І не каму-небудзь, а ім беларускі народ павінен быць удзячны. Яны ж разбудзілі яго, выратавалі ад смерці...

●

**Ф. Скарына такая буйная постаць, што ахапіць усю яе значнасць і тое, што ім зроблена, пакінута наступнікам, амаль немагчыма. І гэта з асаблівай сілай я адчуў, калі прымаў удзел у журы конкурсу па адбору помніка славутаму палачаніну. Усе тыя, хто выказваўся «за» ці «супраць» таго ці іншага праекта, — М. Савіцкі, М. Лужанін, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, В. Шаранговіч і інш., — звычайна вылучалі адну, самую, як ім здавалася, галоўную рысу творчага подзвігу Ф. Скарыны. І рыс гэтых назбіралася столькі, што, вядома ж, ні адзін мастак не ў змозе быў увасобіць іх ні ў бронзе, ні ў жалезе, ні ў камені. І конкурс працягваўся, працягваўся...**

●

Нізка схіляю галаву перад мужнасцю Кастуся Каліноўскага, які аддаў жыццё дзеля беларускай справы, пайшоў на смерць, каб сваім подзвігам натхніць, павесці за сабою многіх.

Але і радуюся, што тым самым шляхам не пайшоў удзельнік паўстання 1863 года Францішак Багушэвіч. Паранены, ён перахаваўся, каб потым напісаць творы, якія панеслі далей у народ словы і мары Кастуся Каліноўскага.

У кожнага чалавека свая жыццёвая дарога. Важна, каб усе мы ў меру сіл і здольнасцей служылі Бацькаўшчыне.

●

**Што дапамагло беларускаму народу ў неверагодна цяжкіх умовах выжыць, захаваць сваю культуру і мову, застацца самім сабою — народам? Па-рознаму адказваюць на гэтае пытанне вучоныя, пісьменнікі. Ф. М. Дастаеўскі на першае месца ставіў народную веру ў сябе і ў свае сілы. «Народная вера ў сябе і ў свае сілы, — пісаў ён у 1861 г., — зусім не застой, а, наадварот, залог жыццёвасці і энергіі жыцця і зусім не выключаюць прагрэсу і самых розных поспехаў. Без гэтай веры ў сябе не выстаяў бы, напрыклад, на працягу стагоддзяў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».**

●

«Залічаць да палякаў беларусаў-католікаў толькі таму, што яны католікі, — звычайнае этнаграфічнае грабежніцтва», — гаварыў А. Сапуноў у 1912 годзе, выступаючы ў Дзяржаўнай Думе. А залічалі ж. Ды і залічаюць. Вось што пісаў Казімір Сваяк у дзённіку «Дзея маей мыслі, сэрца і волі»: «Паляк кажа, што хто мовіць пацеры ў ягонай мове, той паляк». А «мовіць пацеры» на сваёй роднай мове не дазвалялася. Вось таму і ўзніклі такія вялікія пасяленні «палякаў» на Віленшчыне, Гродзеншчыне ды і ў іншых месцах...

●

**«Любі ўсе іншыя народы як свой уласны». Шкада, што гэтыя словы выдатнага рускага філосафа У. Салаўёва не пачуты не толькі ў рэспубліках цяпер ужо былога Савецкага Саюза, але і ў самой Расіі.**

●

Працуючы ў «Полымі» і рыхтуючы да выдання рукапісныя творы М. Гарэцкага, прачытаў на адной са старонак як бы лірычнае адступленне, словы болю і адчаю пісьменніка, якія мяне надта ж уразілі. Не запомніў іх дакладна, але сэнс і цяпер у мяне ў галаве. М. Гарэцкі звяртаўся да Усявышняга, Валадара нашага: «Божа, навошта даў ты мне гэтую беларускую мову? За яе мяне праследавалі палякі, немцы, садзілі ў турму бальшавікі. Усё маё жыццё — суцэльная пакута. І праз што — мову, якую ты даў мне быццам на радасць, каб я размаўляў на ёй і славіў цябе».

І, нягледзячы ні на што, М. Гарэцкі не выракся сваёй роднай мовы, гаварыў і пісаў на ёй. Да самага скону, да апошняй хвіліны жыцця...

●

**Як маці, бацьку нельга сабе выбраць, так і Радзіму, народ. Якія даў іх Бог, такія яны і ёсць. І не абурацца, не папракаць іх трэба, а рабіць усё магчымае, каб народ стаў лепшы, дабрэйшы, больш адукаваны, свядомы, а Радзіма — багацейшая, слаўнейшая.**

(Працяг на стар. 12).

## Перакладаючы Івана Франка

Гавару з прарокам Майсеем,
Расступаецца мора, як суша.
А загоны пустыя — сеем,
І маўчаць здзічэлыя душы.
Прысягай, хваліся, кляніся—
А жыццё пячэ, нібы чэмер...
Як той свет: ні запросін, ні выйсця...
Хоць бы ты — як у даўнім калісьці...
Хоць бы я — ранейшы — сасніўся...
Пустата. І нікчэмнасць...

●

Сын рабіна — Рабінзон —
Адкрыў адзіноцтва ўцеху, —
Яе нам пакінуў, як сон,
А сам у Ізраіль з'ехаў...

Сказаў я вось так — і стаю,
Як пры пытальніку клічнік:
Прабачце за вольнасць маю
На ніве этымалагічнай.

Што «Робін», што «рабін», што «раб» —
Я ўсё разумею дакладна, —
І цадзік, і цар, і міраб—
Скідаю мундзір парадны.

Мне толькі ты, Рабінзон, —
І вера, і выпрабаванне,
І з радыяцыйных зон
Апошняе ўратаванне.

Касмічны наш карабель,
Зямля наша дарагая, —
І Рабінзон за рубель
Плацкарту мне аберагае.

Ляці — не пытайся, куды, —
Ляці — да сваёй адзіноты,
Напіцца чыстай вады
І высмягнуць чыстым потам...

Што новага свету патоп:
Ці скон, ці ўваскрэсенне — сведчыць!..
Чарнобыльскі ізатоп
Згарае апошняю свечкай...

І некага ўжо спытаць:
Ці гэта кáра такая! —
Лячу, каб нашчадкаў дагнаць
Ці продкаў пераганяю!

●

За мяне схавацца немагчыма
Тым, хто здрадзіў маці і Айчыне,

Хто змяняць душу яе і мову
На карону царскую гатовы.

Я не з вамі, хто ў любві клянецца,
А назаўтра д'яблу прадаецца.

Я не з вамі, хто, як на рулетку,
Ставіць свой рыштунак партбілетны.

Я не з вамі, хто мяне наважыў
На пайкі чыноўныя развважыць.

Я не з вамі, хто вучыць народы
Прэ нахабна, — я не з той пароды.

І не стойце хіжа за плячыма:
За мяне схавацца немагчыма.

## Сэрца

Так і не ўдалося разгадаць
Формулу ці дотык не адвергнуты:
Каб камочак гэты мне аддаць
Змог усю касмічную энергію...

●

У свеце ўсё было, і ўсё прайшло.
Які там круг, якая там арбіта —
Апошняя ці першая адкрыта!..
Мінулае яшчэ не прарасло,
А будучае ўсё — даўно забыта.

●

Дух, не абвержаны цвікамі,
Ляціць у вечным вымярэнні.
А ты — прыціснуты вякамі,—
Ты ўстаць наважыўся з каленяў!

Плоць аб зямныя сутарэнні
Па-рабску разбівае сілы.
А ты — адольваеш старэнне
Халодным подыхам магілы.

Чыясьці дагарэла зорка,
Ці новая ўзышла над светам,
Каб з небыццём парваць гаворку.
А ты — што знаеш ты аб гэтым!..

## На беразе рыбацкіх успамінаў...

Сяргей Законнікаў, мой сябра і паэт,
Дзіця Азёрнай Віцебскай Краіны,
Расказваў, як рыбацкі этыкет
У іх афармлены наменклатурным чынам.

Калі акунь трапляе не на ўздзіў,
А так сабе — фунтова-паўфунтовы —
Рыбак зазначыць: «Клюнуў брыгадзір»,—
І паплюе — на шанец адмысловы.

Дырэктарам тут хрысціцца судак.
Калі ж карась у човен скочыць з раскі,
«ЧВА», — як вяслом прычмоквае рыбак:
«Часовы выканаўца абавязкаў...»

Бывае найвялікшая з фартун —
Шчупак пудовы альбо сом-дрымотнік,
І леска зазвініць у сотню струн —
Крычыць рыбак: «Папаўся
партработнік!..»

...Стаю каля былой сваёй ракі —
На беразе шчымлівай, вечнай раны:
Калісьці тут — малыя рыбакі —
Мы ў брэдзень бралі карпа-ветэрана,
У венцер запрашалі шчупакоў,
У падвалочку галаўнёў ганялі,
Цягнулі сець на плотак і лінёў,
Таптухай уюноў тапталі з твані,—
Без пахвальбы скажу: бываў улоў —
Маглі б нам пазайздросціць віцябляне!..

Я помню, як заглушку, нібы кляп,
Крыніцы ў горла ціснулі з цэменту,
Гарлалі: «Не прабілася хаця б!..» —
Душылі без ніякіх сантыментаў.

А жыла вырывалася бруёй,
З вачэй змывала злую катаракту, —
Так утаймоўвалі цэментнаю бранёй
Праз трыццаць год чарнобыльскі рэактар.
Ды розніца была: тут надыбкі
Смерць уставала, а тады ў крыніцы
Жыццё глушылі. І ўсплывалі ніца,
Як шчупакі, цэменту языкі...

Няма даўно ўжо Талінкі ў мяне,
І Нача — у канаве-дамавіне.
Ды страшна: як чужога, абміне
Без мамы вёска і не ўзнае сына.

Пагаслі пад зямлёй — няма крыніц,
Што рэчку рыбную вадой з глыбінь
паілі, —
Яшчэ страшней: пад гнётам камяніц
Прадаць душу сваю бязроднай сіле.

Аднойчы і на ўсё жыццё ўявіць,
Што «паляпшальнік» ты — «меліяратар»,
І кроў зямлі жывую прагна піць,
Звяроў і птушак розуму вучыць,
Людзей ад бездухоўнасці лячыць,
Не заўважаючы, што сам душой
гарбаты...

Забудзе вёска — вінаваць сябе,
Сябе кляні, сябе кляймі ганебна.
А ты забудзеш — будзеш век гібець:
Праклёну не дадуць зямля і неба...

---

гаманіць з гарэліцай — не прыжыўся: разам са мной раніцаю прачынаўся галаўны боль і гідлівасць да сябе.

Філармонія, тэатры... Ах, ці любіце вы тэатр? Я пытаюся ў вас: ці любіце вы тэатр, як любіў яго я... Даруйце мне гэтае невялікае запазычанне (аўтара гэтых радкоў не памятаю), прытым згаданае тут не даслоўна (яшчэ раз даруйце!), але я проста вымушаны пайсці на гэта, бо тое, што цяпер называюць тэатрам, часцей за ўсё нешта сумнае, непраўдападобнае, а зрэдчасу і звышсексуальнае, што... І мне нічога не застаецца, як гаварыць аб сваёй любві да тэатра ў мінулым часе.

Заставаліся жанчыны, але і тут мяне чакала расчараванне: калі даходзіла да Самага Гэтага, вочы мае падкладвалі мне такую свінню, што я быў гатовы ўласнымі рукамі выкалаць тыя вочы. Уявіце сабе: у абдымках жанчына з ружовымі аксамітнымі шчочкамі, аксамітнымі вочкамі, з грудкамі, што нагадваюць двух галубкоў, якія вытыркаюцца з гнязда ружовымі дзюбкамі... А вочы мае робяцца раптам звышвідушчымі і бачаць маю былую жонку, вушы мае пачынаюць чуць яе прыглушанае буркатанне... Ува мне ў тое ж імгненне абрывалася сэрца і ўся мая кар'ера казанова на гэтым канчалася.

Вось і атрымліваецца, што вольны час мне не патрэбен, а непатрэбную рэч лепш прадаць, пакуль на яе ёсць попыт.

Дома, пасля вячэры, не стрымаўся, пазваніў.

— Выбачайце за турботы, я на аб'яве Вадзіма Мікалаевіча.

Недзе там памаўчалі, а пасля адказалі — неяк без пэўнасці і са здзіўленнем:

— Па аб'яве Вадзіма Мікалаевіча?.. Ах, так, так, даруйце. Пачакайце хвілінку, я паклічу.

Мінула хвілін пяць, потым у трубцы прагучала:

— Слухаю вас.

— Вадзім Мікалаевіч, я па аб'яве. Магу прапанаваць вам... сёе-тое...

Сказаць «вольны час» у мяне не хапіла духу. Цяжка ўваходзіць у наша жыццё навука і яе дасягненні.

— Зрабіце ласку, скажыце больш канкрэтна, што вы можаце прапанаваць?

Голас гучаў спакойна, нават неяк будзённа, нібыта гаворка ішла аб продажы крэсла. Я трошкі падбадзёрыўся.

— Вольны час, — сказаў я. — Хіба вы не пісалі пра гэта ў сваёй аб'яве?

— І пра гэта таксама пісаў, — быў адказ.

Цяжка сказаць, на каго я быў падобны ў гэтую хвіліну. Сто супраць аднаго, што сам сабе я не спадабаўся б. Сядзець дома ў зручным крэсле і разважаць аб продажы вольнага часу, аб дасягненнях навукі, сам-насам радавацца цішыні, калі сам сабе гаспадар і ўласнай фантазіі няма межаў — гэта адно. Цяпер жа, калі ўзнік рэальны суразмоўнік, хай і тэлефонны, які, аказваецца, сапраўды зусім сур'ёзна гатовы гаварыць аб сваёй аб'яве... Я ці то разгубіўся, ці то спалохаўся... Стаяў моўчкі з тэлефоннай трубкай у руцэ, пераступаў з нагі на нагу, ліхаманкава прыкідваў, што і як сказаць. Можа, пакласці трубку і забыць усё гэта? Таксама выйсце. Дарэчы, ён сказаў, што «і пра гэта таксама...» Значыць, існуюць аб'явы, у якіх гаворка ідзе пра нешта іншае? Пэўна, таксама нешта гэтакае... Цікаўнасць другі раз падштурхнула мяне і я вырашыў абавязкова спаткацца з гэтым незвычайным пакупніком.

— Вось і добра, — сказаў я як мага бадзёра. — Давайце сустрэнемся, пагаворым. Навошта адкладваць, праўда? Чым будзеце плаціць: рублямі ці валютай?

— Мне падабаецца ваш аптымізм, але што тычыць аплаты, дык павінен вас расчараваць: аплата рублямі. На валюту ідзе іншы тавар.

— А ці нельга даведацца, што гэта за тавар? Раптам ён ёсць і ў мяне? — Я адчуваў, як мяне ахоплівае азарт.

— Калі ласка — міласэрнасць, дабрыня. У крайнім выпадку — цярпімасць. Калі ў вас ёсць такі тавар — калі ласка, атрымаеце валюту.

Ён вар'ят! — прабегла думка. Дзе ён у нашы дні знойдзе міласэрнасць, дабрыню, цярпімасць? Ды ані за якую валюту, нават тройчы канвертуемую! Колькі яе засталося на шарыку нашым, гэтай дабрыні, міласэрнасці? Зірнуў на сваю раскрытую даланю і горка пасміхнуўся. Добра, проста выдатна, калі дабрыня кожнага з нас лёгка памесціцца ва ўласнай жмені.

— Чаго ж вы змоўклі?

Далёкі голас Вадзіма Мікалаевіча вярнуў мяне да размовы. Каб не выдаць сваёй разгубленасці, я хуценька адказаў:

— Прыкідваю час сустрэчы. Калі вам зручна?

— Ну, скажам, заўтра ў шэсць гадзін вечара?

— Згода, — адказаў я.

— Запішыце адрас. Гэта клініка, вам давядзецца прыехаць да мяне на работу.

— Мне ўсё роўна.

Ён назваў адрас і дадаў:

— Знойдзеце мяне ў пятым корпусе, на другім паверсе, у кабінеце нумар пяць. Прыкіньце, калі ласка, дакладную колькасць вольнага часу, які вы мне падрадджаецеся прадаць. Скажам, за месяц. Каб не займацца падлікамі ў мяне. І, выбачайце, я спяшаюся. Да заўтра!

Я прыняўся за падлікі. Практычна кожны вечар з сямі да дванаццаці я нічога не раблю. За пяць рабочых дзён набягае прыкладна дваццаць пяць гадзін. Плюс два выхадныя па шаснаццаць гадзін — усяго атрымліваецца пяцьдзесят сем. Адымем гадзіны чатыры на кнігі, вячэры, абеды, лазню... Застаецца пяцьдзесят тры. Памножым на чатыры тыдні. Дзвесце дванаццаць гадзін за месяц, амаль дзесяць дзён! Дзесяць дзён з трыццаці мне, аказваецца, не патрэбны!

Седзячы ў крэсле з запісной кніжкай і алоўкам, я абдумваў сітуацыю. Папершае, разлікі мяне ашаламілі. Атрымліваецца адна трэць майго жыцця праходзіць попусту, яна проста не патрэбна, вісіць на нагах жалезнымі путамі, вымагае ад мяне нейкіх намаганняў хоць чым-небудзь запаўняць гэты кавалак жыцця. А яшчэ кажуць, што век чалавечы—кароткі! Але, з другога боку, што чакае мяне там, па гэтым адрасе? Маньяк-забойца, які заманьвае сваіх ахвяр такім незвычайным чынам? Аматар розыгрышаў з забаўным пачаткам і невядомым канцом? Любое з маіх меркаванняў магло аказацца праўдай і ў любым выпадку я апынуўся б у вельмі непрыемнай сітуацыі. Розум падказваў — пакуль не позна, выкінь адрас з тэлефонам і забудзь усё, звязанае з аб'явай. Пэўна, я так і зрабіў бы, але тут маю ўвагу прыцягнуў гадзіннік, падараваны мне калегамі па рабоце ў дзень трыццацігоддзя. Ён ціха пастукваў на сцяне, адлічваючы час, які, аказваецца, мне не патрэбны. Зрэшты... Ну, зноў гэтае вяртанне ў мінулае, глыбокае, як стары вір. Гэта як пагружэнне ў мора з сапсаваным аквалангам: то глыбока, лёгка дыхаеш, то раптам не хапае паветра і пачынаюць душыць спазмы ў грудзях. Адна з прычын гэтых спазмаў — мой сын. Алегу цяпер дзесяць. Колькі спатрэбілася б такому гарэзу бацькоўскага часу? Безліч і яшчэ гак. Гэта ў тым выпадку, калі б пасля разводу ўсё было, як у людзей. А то ж: «Гэта мой сын, ты яму ніхто, каб мы цябе больш не бачылі!» Чаго было больш у гэтым — помсты за «зламанае жыццё» ці бабскай дурноты? Не ведаю. Зразумеў адно: прыгавор канчатковы і абскарджанню не падлягае.

Цік-так, цік-так... Асцярожны поступ просценькіх гукаў. Спяшаюцца стрэлкі па крузе, як цыркавыя коні, з кожным ударам большачы гісторыю на секунду і нагадваючы мне пра вольны час, які ператварыўся для мяне ў няпрошанага госця. А тут прапануюць мне дапамагчы пазбыцца ад такога грузу ды яшчэ заплаціць!

Павагаўшыся, парашыў: паеду! Але не адзін. Запрашу сябра, надзейнага чалавека. Беражонага Бог беражэ.

Звалі яго Іванам, мы былі аднагодкі, аднолькава хударлявыя і рослыя. Яшчэ гадоў пяць назад увесь свой вольны час мы бавілі разам. А як ён ажаніўся, а я, наадварот, развёўся са сваёй законнай, сустрэчы нашы неяк раптоўна спыніліся і сяброўства наша набыло іншую форму. Іванаў шлюб бесцырымонна адштурхнуў мяне ад сябрука на прыстойную адлегласць, і высветлілася, што сумоўнічаць нам лепш за ўсё па тэлефоне. Разы два на тыдзень мы перазвоньваліся, абменьваліся навінамі, зрэдчас, дамовіўшыся загадзя, сустракаліся ранічкаю перад работай за кубачкам кавы (на наша шчасце, бар адчыняўся рана). Аб тым каб схадзіць куды-небудзь увечары, як гэта было раней, альбо махнуць дзён на дзесяць у Крым, ужо і гаворкі не было, хоць абодва і марылі аб гэтым. Пра мінулае ніколі не ўспаміналі, кожны зберагаў гэта ў душы, як патаемнае. Можа, яно і не было шчодрае, затое належала толькі нам.

Да якой глыбіні мінулага апускаешся, Божа мой! Усё праплывае перад вачыма ў нейкім варухлівым, крышталёвым тумане, калі твары невыразныя, рэплікі прыглушаныя і ўзмах белай хусцінкі падаецца крылом чайкі. Тады ўсё жыццё было суцэльнай чароўнай загадкай, салодкімі мукамі смутку і чакання... Відочная, быццам высечаная з белага мармуру ўсмешка Таццяны, а можа, Веры ці Ніначкі... Хто зараз прыгадае тыя далёкія імёны нашых дзяўчатак з вострымі каленькамі, з гусінай скурай на агаленых да плячэй руках халоднымі летнімі начамі?..

У тыя гады пілі, але ў меру (па савецкім разуменні), чыталі запоем, а пасля спрачаліся... Памятаю, Іван быў якімсьці добразычлівым спрачальнікам, ураўнаважаным, і калі мне не ставала аргументаў і ён разумеў гэта, дык, папярэдне ўсміхнуўшыся, пераключаў спрэчку на іншую тэму, прытым так спрытна, што ні я, ні іншыя субяседнікі не адчувалі сябе пераможанымі.

Інжынер па адукацыі, Іван вызначыўся ў жыцці як чыноўнік і зараз раскашуе ў адным з міністэрстваў. Самая апошняя навіна — ужо начальнік упраўлення. Пэўна, капялюш, плашч з зашмаркай да падбародка, невыразны, афіцыйны погляд. Не бачыліся, бадай, з год. Але канчаткова забыць адзін аднаго мы не змаглі, наўрад ці калі-небудзь гэта і будзе. Вядома, мы ўжо іншыя, мяркую па сабе, ды вось пытанне — якія? Ці не пашле мяне Іван у гэты лістападаўскі вечар куды-небудзь на маю просьбу скласці мне кампанію? Не, не паслаў. Наадварот, пасля, калі я растлумачыў яму, што і як, ён усклікнуў з непадробным захапленнем «Не можа быць!» і тут жа згадзіўся.

Ягонае жаданне паўдзельнічаць у прыгодзе тлумачылася вельмі проста. Дзён дзесяць назад Іван таксама наткнуўся

(Працяг на стар. 10—11).

Да 100-годдзя з дня нараджэння Рыгора ШЫРМЫ

**Пра Рыгора Раманавіча Шырму, выдатнага дзеяча культуры, фалькларыста, харавога дырыжора, шмат пісалі яшчэ пры ягоным жыцці. Быў ён асобай гістарычнай, чый доўгі, багаты на падзеі, сустрэчы, справы шлях адлюстраваў характэрныя прыкметы зусім канкрэтнага, супярэчлівага ды трагічнага, часу. Быў ён і чалавекам-легендай, чыё самабытнае аблічча, ці, як цяпер кажуць, «імідж», прываблівала ўвагу самых розных людзей — сяброў і зайздроснікаў, паклоннікаў і скептыкаў. — сваёй загадкавай — так, здаецца, й не разгаданай — абаяльнасцю.**

**Дзяцінства на Пружаншчыне. Саматужныя фальклорныя вандроўкі па Белавежскім краі. Складзеная ў гімназічныя гады паэма пра лёс рэвалюцыянера. Педагагічныя курсы пры Свянцянскім гарадскім вучылішчы. Настаўніцтва. Арганізацыя школьнага хору. Праца ў Віленскай беларускай гімназіі; заняткі з хорам, вандроўкі па песні. Дзейнасць у ТБШ. Зняволенне ў Лукішках. Супрацоўніцтва з заходнебеларускім друкам. Знаёмства з Б. Тарашкевічам, К. Галкоўскім, М. Забэйдам-Суміцкім, П. Пестракам, М. Васільком, М. Танкам... Стварэнне харавой капэлы, якая пры жыцці Р. Шырмы прыняла ягонае імя. Збіранне беларускага песеннага фальклору і клопат пра яго апрацоўку прафесійнымі кампазітарамі. Асветніцка-прапагандысцкая, канцэртная дзейнасць. Дэпутацтва. Званне народнага артыста СССР. Зорка Героя Сацыялістычнай Працы. Пасада старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР... Вось такія факты біяграфіі.**

**Зусім нядаўна высветлілася, што Р. Шырма рыхтаваў артыкул пра М. Забэйду-Суміцкага, з якім меў творчыя сувязі ў 30-я гады. Але нават Шырма з ягоным аўтарытэтам у «саноўных» колах не здолеў дамагчыся публікацыі, і рукапіс праляжаў у хатнім архіве (яго паказвала дачка Рыгора Раманавіча, Алена Рыгораўна, на вечары прысвечаным 90-годдзю М. Забэйды).**

**Адышлі ў нябыт равеснікі-паплечнікі Р. Шырмы. І хоць многа людзей больш маладых маглі б паўспамінаць сёння пра яго, лепш скарыстаць юбілейную нагоду, каб звярнуцца да малавядомага зборніка, складзенага музыказнаўцай В. Сізко і выдадзенага амаль 10 гадоў таму, — «Песня на ўсё жыццё». Зборнік, як і многае ў нас, застаўся па-за ўвагай шырокай культурнай грамадскасці. А ў ім — захопленыя і высокія словы, і ўдумлівыя ацэнкі, і вобразныя абагульненні, і невядомыя дэталі, і трапныя назіранні. Паўсотні артыкулаў, якія ўтварылі кнігу, — гэта згадкі й думкі пра Р. Шырму, якімі падзяліліся літаратары, фалькларысты, музыканты, навукоўцы Беларусі, Літвы, Расіі, Украіны, Грузіі.**

**Каліўца тых успамінаў (варта сёе-тое працытаваць, не кожнаму іх пагартаць давядзецца) вы прачытаеце і тут, у «ЛіМе», дарэчы, членам рэдкалегіі якога доўгі час быў Рыгор Раманавіч.**

**А лепшай данінай памяці юбіляра сталася «Анталогія беларускай народнай песні» са збору Р. Шырмы, запісаная Акадэмічным хорам Дзяржтэлерадыё Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра В. Роўды, які калісь працаваў поруч з «бацькам» знакамітай капэлы...**



# ЧЫСЦІНЯ ТАЛЕНТА

Славутага чалавека, як і славутую кнігу, можна спасцігаць усё жыццё. Час толькі паглыбляе ўсведамленне іх сапраўднай гістарычнай значнасці, робіць больш зразумелым, чаму ўсё новыя і новыя пакаленні людзей звяртаюцца да іх у пошуках адказу на злабадзённыя і «вечныя» пытанні жыцця. Гэткія людзі і кнігі ёсць у кожнага народа. У беларусаў адзін з такіх людзей — Рыгор Раманавіч Шырма.

Асоба сапраўды гістарычнага маштабу, якая здолела выявіць сабой дух і вобраз цэлай эпохі, Р. Шырма зрабіўся сімвалам нацыі, увасабленнем яе інтэлекту і народнасці, адным з яе Песняроў, Мастакоў, Творцаў. З яго імем звязана паняцце Высокага. І ў мастацтве, і ў грамадскай рабоце яго вядучымі былі талент і маральнасць. Яны спадарожнічалі яму на працягу доўгага і змястоўнага жыцця, адбіўшыся ва ўсіх гранях яго рознабаковай дзейнасці, вызначыўшы сутнасныя рысы гэтай цэласнай і моцнай натуры.

Аснова яе была трывала дэмакратычнай. Дакладней, гэта быў дэмакрат-інтэлігент, у характары якога спалучаліся такія прывабныя рысы, як годнасць і сціпласць, добразычлівасць і стойкасць, смеласць і стрыманасць, гумар і цікаўнасць, уменне быць «на роўных» з людзьмі незалежна ад іх рангу і ўзросту... І ўсе гэтыя якасці цэментаваліся вялікай воляй, цвёрдасцю перакананняў, мэтанакіраванасцю ў справах і вялікай асабістай адказнасцю за лёс культуры беларускага народа, якому Рыгор Раманавіч свядома і старанна служыў усё жыццё.

Галоўным для яго была праца. Працаваць Шырма любіў і ўмеў. І, відаць, не будзе перабольшаннем сказаць, што жыццёвы і творчы шлях Рыгора Раманавіча ў асноўным склаўся шчасліва менавіта таму, што ў ім панавала стваральная праца. Дзякуючы ёй — нястомнай, разнастайнай, штодзённай — Р. Шырма здолеў рэалізаваць увесь свой магутны творчы патэнцыял, узняцца ў галоўных напрамках сваёй дзейнасці на алімпійскія вышыні. Усе мы добра ведаем гэтыя вышыні: народная музыка, прафесійныя харавыя спевы, культурна-грамадская дзейнасць. Пра кожную з іх напісана шмат, кожная атрымала шырокае і ўдзячнае прызнанне сучаснікаў, і, можна думаць, знойдзе такі ж шчыры водгук у сэрцах будучых пакаленняў. Тым больш, што наш новы час дае магчымасць уявіць асобу Рыгора Раманавіча больш аб'ёмна, высветліць тыя бакі яго жыцця і дзейнасці, якія раней не прынята было афішаваць. Безумоўна, у «кнігу пра Шырму» будзе ўпісана яшчэ шмат старонак. Адну з іх можна было б назваць «старонкай мужнасці» і прысвечана яна была б тэме «Мастак у таталітарнай камуністычнай сістэме».

Зразумела, што ў межах невялікага артыкула нават ак-

# КУПЛЮ ВОЛЬНЫ ЧАС, ці Праўдападобная гісторыя з гадоў перабудовы

(Пачатак на стар. 8—9).

на аб'яву дзіўнага зместу і запісаў нумар тэлефона. Карацей кажучы, у нас аказаўся адзін пакупнік. У размове са мной Іван тут жа адпусціў пару саланаватых жартаў па адрасе невядомага пакупніка, а на маё пытанне, адкуль у яго вольны час пры жонцы і дзвюх дочках, неяк шматзначна змоўк, а пасля спытаўся:

— Пры чым тут вольны час? Там пра іншае ішла гаворка.

— Але, ішла. Пра міласэрнасць, дабрыню...

Іван маўчаў. Я чуў, як ён пераклаў трубку ў другую руку, усміхнуўся і сказаў:

— Ды не, ты нізавошта не здагадаешся. — Зрабіў паўзу, нібы даючы мне магчымасць падрыхтавацца да нечага незвычайнага. — Ён купляе нянавісць, зло. Як табе падабаецца?

Час ад часу не лягчэй! Такое пачуць я сапраўды не чакаў. Найперш мяне ўразіў не сам факт здзелкі (чаго-чаго, а такога дабра ў нас процьма), а тое, што прадаўцом такога тавару аказаўся мой лепшы сябар. Хто б мог падумаць!

Пакуль я маўчаў, ашаломлены ягоным прызнаннем, Іван паспрабаваў усё звесці да жарту:

— Ён, вядома арыгінал і разумнік, наш пакупнік. Гэта табе не тэлевізар памяняць на халадзільнік! У драўляную галаву такія думкі не прыходзяць. Ва ўсякім разе, цікава будзе сустрэцца з ім. Хацеў цябе прасіць скласці мне кампанію, ды ты апярэдзіў.

— Мы таксама не лыкам шыты, — знайшоўся я. — Тавар жа наш — не памацаць, не пабачыць... Атрымлівай! Хочаш — у літрах, хочаш — у кілаграмах, а бабкі на стол. У нас жа пад завязку і часу, і злосці.

— Зрэшты, добраму чалавеку я і дарма аддаў бы, як падарунак да Новага года. Уяўляеш, — Іван працягваў ужо зусім спакойна, нават неяк ленавата, — ці то жадаючых аказалася шмат, ці па якой іншай прычыне, але сустрэча мне прызначана толькі на наступны аўторак. Мяркую, не прагоніць, калі разам прыйдзем. Так што, старэча, нам зноў па дарозе, зноў нас лёс зводзіць.

— Нічога дзіўнага, мы ж з аднаго пакалення.

Вядома, гады нашага сяброўства давалі мне права (як і яму) спытаць напрамкі: «Што ж здарылася, Іван? Ты — і раптам лішак нянавісці ў душы?!» У той жа час і ён мог пацікавіцца ў мяне: «Як, у цябе процьма вольнага часу? Калісьці ты вечна кудысьці спяшаўся!» Не спыталі. Ні я ў яго, ні ён у мяне. Быццам усё, што з намі адбылося, само сабою зразумела, быццам усё было непазбежна і прыняць яго трэба мужна, без эмоцый.

Наша сустрэча на наступны дзень нагадвала нечаканае сутыкненне двух незнаёмцаў у вузкім калідоры. Сухая доўгая даланя выскачыла з рукава паліто, пачуўся Іванаў голас:

— Здароў. Ну, як ты?

— Здароў. Так сабе.

— Пайшлі?

— Пайшлі!

Вось і ўсе словы, быццам учора развіталіся. Міжволі падумалася: а калі б не гэтая аб'ява, дык ці сустрэліся б?

Ці было нам сорамна адно перад адным? Не ведаю, што рабілася ў Іванавай душы, а маю ажно распірала зусім іншае, чым сорам, пачуццё. Хутчэй за ўсё няёмкасць, нейкая раптоўная разгубленасць і безабароннасць, якую, пэўна, зведвае дзіця, заспетае за непрыстойным заняткам. Шэры плашч з паднятым каўняром і да падбародка зашморгнуты на маланку капялюш, насунуты на самыя вочы, профіль шараватага твару ў пачарнелым ужо паветры... Вось і ўвесь Іван. Нават не чалавек, а нейкі абрыс чалавечы. Напэўна, гэткім жа абрысам у Іванавых вачах быў і я. Успыхнулі белыя ліхтары і адкінулі ад нас два доўгія аднолькавыя цені. Так і рухаліся два непрыкметныя сілуэты ў суправаджэнні ценяў, пакуль не дабрылі да патрэбнай вулкі. Прайшлі яшчэ метраў сто, нырнулі ў арку і апынуліся ў квадратным дворыку.

Двор быў запоўнены нейкай глухой цемнатой уперамешку з туманам, які струменіўся з дахаў і расплываўся доле шэрымі языкамі. Калі вочы нашы прызвычаіліся да гэтага імжыскага закутка, мы ўбачылі шарэнгі кустоў, некалькі клёнаў, дзве дажджавыя бочкі на рагах дома пад бляшанымі вадасцёкамі, дзве лаўкі ды машыну хуткай дапамогі, размаляваную, як навагодняя ёлка.

— Корпус нумар пяць, — прачытаў Іван на металічнай шыльдзе. — Здаецца, прыйшлі.

Дом быў нейкі занядбаны і няўклюдны побач з сяміпавярховым прыгажуном з шырокімі вокнамі, з якіх шчодра лілося ў ноч жоўтае святло.

— Змрачнаватае месцейка, — зазначыў я. — Бальніца, а нагадвае турму.

Зайшлі. У фае на сценах — рамкі аб'яў, загадаў, у паветры — пах ёду і соды, пад столлю — фіялетавыя лямпы, ад якіх святла, як ад запалкі, і ва ўсёй гэтай тужлівай прасторы сноўдаліся хворыя, аднолькавыя, як арыштанты, у гарчычных халатах без паясоў з інвентарнымі нумарамі на рукаве, і тыя, што прыйшлі праведаць хворых. Яны гаманілі ўпошапкі, быццам аб чымсьці таемна змаўляліся, і толькі адна маладая дама ў чорным футры прагавіта і гучна задавала пытанні падлетку, які нагадваў статуэтку, а той сціскаў калені, церабіў крысо казённага халата і моўчкі вадзіў вачыма па чорным футры. Штосьці тужлівае, падвальна-затхлае заплыло мне за каршэнь, тут жа прыгадаўся Крым, апельсінавы шар сонца, а пасля, на змярканні, сакавіта наліваецца зорка ў ражку нізкага неба, а за чорным кустом смяецца жанчына...

— Пайшлі, нас чакаюць, — тузануў я Івана за рукаво.

Ледзь мінавалі вестыбюль, сутыкнуліся з двума гігантамі ў белых халатах і аднолькава стрыжанымі пад «бокс». На рукавах халатаў угадваліся інвентарныя нумары.

— Гэта куды вы так жвава? — запыніў нас адзін санітар, бесцырымонна агледаючы. У яго быў круглы губасты твар з выразам гідлівасці. Другі — насаты, з маленькімі вочкамі, падобны на пелікана — моўчкі скрыжаваў рукі на грудзях і глядзеў на нас.

— У нас сустрэча з Вадзімам Мікалаевічам, — адказаў я. — Мы дамовіліся на шэсць, ён чакае нас у пятым кабінеце.

— Па асабістай справе, — дадаў Іван і зняў капялюш. Без капелюша Іван выглядаў неяк па-хатняму, зусім не афіцыйна.

— Паехаў ён, па выкліку, — сказаў губаты.

— Не, не паехаў, я заўважыў бы, — паправіў яго другі. — Наогул, у нас так проста не шпацыруюць. Рэжым, — працягваў санітар з нейкай непрыемнай павучальнасцю, назіраючы за намі. Сказаў, усміхнуўся. Усмешка неахвотна палезла ўбок, на шчаку. — Хіба вас не папярэдзілі?

— Не, — адказаў Іван. Ён увесь час, крыўдліва падцяўшы вусны, глядзеў кудысьці ўбок быццам кажучы, што яму няма пра што гаварыць з гэтым велізарным белым чалавекам, падобным на пелікана.

Азіраю памяшканне: па ўсім калідоры са сцен тырчаць ліхтары з тым жа цьмяным нікчэмным святлом, як і ў фае (напэўна, гэтак задумана), дашчаная падлога, дашчаная лесвіца на другі паверх... Яна адгароджана ад нас шырокімі дзвярыма з засовамі і кратамі замест шкла. Позіркам пранікаю праз краты, падымаюся наверх і на пляцоўцы другога паверха ўпіраюся ў вакно, таксама закратаванае, і яшчэ раз пераконваюся ў тым, што мы з Іванам прыбылі ва ўстанову, дзе адным дазволена амаль усё, другім — амаль нічога, і ўпадаю ў нейкае здранцвенне, накшталт страху.

Нарэшце нам дазволілі ісці, растлумачыўшы: на другі паверх, потым за рог, трэція дзверы леваруч. І ўжо ў спіну — не шуміце, калі ласка, без вас хапае.

Зрабіўшы тое, што нам раілі, адчынілі дзверы з нумарам пяць і шыльдачкай «Заг. аддзялення», зайшлі і апынуліся ў звычайным кабінеце са сталом, двума крэсламі, часопісным столікам і вузкім акном у двор. Гаспадар кабінета (старэчага веку, гадоў пад семдзесят) падняўся нам насустрач. Ён быў у халаце і каўпаку, досыць высокі, досыць таўставаты, з вугальна-чорнымі вачамі, што бліскалі з-пад ілба. Пад голеным падбародкам тырчаў кадык, быццам палец.

— Я гаварыў учора з Вадзімам Мікалаевічам па тэлефоне з нагоды яго аб'явы. Мы дамовіліся сустрэцца ў яго ў кабінеце, сёння ў шэсць.

— Памятаю, сядайце. Са мной вы гаварылі. Як вас зваць?

— Аляксандр.

Вадзім Мікалаевіч паглядзеў на нас доўгім паглядам.

— Вы прачыталі аб'яву... У якім месцы?

— На праспекце, ля Дома мадэляў.

Адказваў толькі я, Іван не ўключаўся ў гаворку.

— Прайшлі лёгка?

ФЕСТЫВАЛІ

## «Глядзі на мяне, як на роўню»

У залах Палаца культуры Магілёўскага завода імя Куйбышава было людна: тут пад дэвізам «Глядзі на мяне, як на роўню» праходзіў фестываль творчасці інвалідаў Магілёўшчыны. Падоўгу затрымліваліся наведнікі ля карцін, эцюдаў Алены Пахоменкі, вязання Лідзіі Кавалёвай, іншых цікавых экспанатаў. Уразіла выступленне самадзейных артыстаў, асабліва калектыву бабруйскага клуба «Глухія», які выканаў беларускія і ўкраінскія танцы, пантаміму з «Пінскай шляхты» В. Дуніна-Марцінкевіча. Гэты калектыў пабываў ва Узбекістане, у Прыбалтыцы, на Украіне, збіраецца ў Польшчу. Выступалі спевакі з Магілёва, Крычава. Воін-інтэрнацыяналіст Анатоль Гуляеў пад уласны акампанемент на гітары праспяваў напісаную ім песню «Трэці тост» (памяці сяброў, што загінулі ў Афганістане). Саліст Леанід Курачкін прысвяціў сваю песню «Міласэрнасць» ветэранам Вялікай Айчыннай.

Добра паказалі сябе на фестывалі і літаратары. Мікола Лук'янаў страціў зрок на фронце, але не апусціў рукі, вучыўся, працаваў, пачаў пісаць. Аповесць «І цемра адступіла» выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Аўтар прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Міхаіл Шумаў быў цяжка паранены на фронце; пасля вайны выкладаў рускую і беларускую мовы й літаратуру ў школе. Сёння творы члена СП М. Шумава (Шульмана) вядомыя не толькі на Беларусі. На фестывалі гучалі галасы і аўтара некалькіх вершаваных зборнікаў Ніны Кавалёвай, паэтак Соф'і Шатовай, Галіны Азаравай.

Удзельнікаў фестывалю павітаў настаяцель мясцовага храма айцец Генадзій. Пераможцам былі ўручаны дыпломы і прызы.

А. НОВІК.

г. Магілёў.

ТЭАТР

## Поспех «Шчасця»

Віцебская «Лялька» прадставіла спектакль «Іванава шчасце» А. Дыбчы паводле беларускіх народных казак у пастаноўцы В. Клімчука і афармленні Г. Сідаравай, — прадставіла якраз у часе школьных вакацый. Акцёры С. Лунёва, А. Маханькоў, Г. Кір'янава, А. Рыхтэр, Ю. Франкоў, Н. Шабанава, няйначай зарыентаваны на поспех і дамагаюцца яго...

Святлана ДАШКЕВІЧ.

РАДЫЁ

## Авантуры з працягам

Авантуры-прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага, а таксама Сіняе світы, што налева пашыта, надарыліся ў перадnavagoddze (27 і 30 снежня) на Беларускім радыё: дзіцячыя казкі «Яйка ад куры-шчабятуры» П. Васючэнкі і С. Кавалёва ды «Сіняя світа налева пашыта» (аўтар інсцэніроўкі для радыё Т. Жумар) парадавалі маленькіх слухачоў сваёю нетрадыцыйнасцю і абяцаннем працягу.

МУЗЫКА

## А пазаўчора — у Маскве

Коля ды Лена граюць у Мінску.
Фота А. ЦЕХАНОВІЧА.

На сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі сустрэліся два юныя таленты, адзначаныя за выступленні ў Ватыкане медалём Папы Іаана Паўла II. Сустрэліся — і зрабілі мінскай публіцы музычны падарунак. Імёны іхнія ўжо ведае лімаўскі чытач: гэта дзевяцігадовая піяністка з Харкава Лена Калеснічэнка і яе равеснік віяланчэліст Коля Гімалетдзінаў з Музычнага ліцэя пры БДК. Лена прадставіла сольную праграму з твораў Ф. Шапэна, С. Пракоф'ева, І.-С. Баха, В. Моцарта, паказаўшы такое майстэрства, якое мае не кожны сталы музыкант. Асабліва ўзрушыла выкананне «Французскай сюіты» І.-С. Баха. Каб спасцігнуць і данесці ўсю глыбіню гэтай музыкі, трэба пражыць нямала гадоў. многае зведаць. А гэтая малая дзяўчынка, якая займаецца на раялі 3 гады, «выдала» такую канцэпцыю, што спрактыказаныя музыканты дзіву даліся: такое бывае толькі «ад Бога»...

З Колем разам яны ўтварылі чароўны дуэт, сыграўшы «Мелодыю» А. Дворжака і «Кантраданс» Л. Бетховена. Супольнае музіцыраванне прадоўжылася на вялікім канцэрце ў Маскве, які адбыўся акурат пазаўчора, 15 студзеня.

А. МІЛЬТО.

## Запрашае... новы конкурс

Мінск наведаў генеральны дырэктар І Міжнароднага юнацкага конкурсу імя П. Чайкоўскага Андрэй Шчарбак. На пытанні карэспандэнта пра асаблівасці гэтага конкурсу, яго мэты і да т. п. ён адказаў:

— Конкурс праводзіць Асацыяцыя лаўрэатаў Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага, заснаваная ў 1990 годзе (старшыня асацыяцыі піяніст Леў Уласенка). Спаборніцтва юных музыкантаў ладзіцца па трох спецыяльнасцях — віяланчэль, скрыпка, фартэпіяна, і адбудзецца сёлета ў чэрвені ў Маскве. У далейшым мяркуецца праводзіць конкурс у розных краінах свету, праз нейкі час конкурснай сталіцай можа стаць і Мінск.

Да ўдзелу допускаюцца юныя музыканты з 12 да 16 гадоў. Новыя творчыя спаборніцтвы маюць сваю філасофію: стасавацца не з недавучанымі музыкантамі, а з дзецьмі, якія ўяўляюць сабою мастацкую каштоўнасць; вывесці на першы план педагогаў, якія рыхтуюць будучыню музычнага мастацтва. Адзнакай для лаўрэатаў будуць канцэрты, запісы на дыскі, стыпендыі; стыпендыямі будуць адзначацца педагогі й сем'і, у якіх гадуюцца лаўрэаты. Пад час конкурсу пройдзе семінар па дзіцячым музычным выхаванні. Праспект з умовамі конкурсу, для ўдзелу ў якім Беларусь мае дастойных кандыдатаў, знаходзіцца ў Музычным ліцэі пры БДК.

## Школе 20 год

Дзіцячая музычная школа № 10 Мінска адзначае дваццацігоддзе. Падзеяй стаўся святочны канцэрт, наладжаны вучнямі ды выкладчыкамі для шматлікіх гледачоў. Адбыўся ён у тэатральнай зале акруговага Дома афіцэраў, бо ў школы да гэтага часу сваёй залы няма. Няма нават памяшкання, у якім мог бы сабрацца цалкам хор ці аркестравы калектыў. Набалелая праблема, нявырашаная за 20 гадоў.

Тым не менш, свята адбылося. Выступленне дырэктара Т. Куніцкай, віншаванні школе ад устаноў і арганізацый, узнагароджванне граматамі ды падарункамі лепшых педагогаў... Канцэрт вызначаўся непасрэднасцю і задушэўнасцю. Тон задаў фальклорны ансамбль «Пралеска» (кіраўнік Т. Гурына). Адзін за другім на сцэне змяняліся аркестравыя калектывы, ансамблі, салісты. Творы І. Гайдна, В. Моцарта, П. Чайкоўскага чаргаваліся з беларускаю, рускаю, украінскаю, іспанскаю народнай музыкаю, апрацоўкамі беларускіх песень. Асабліва цёпла прымала зала выступленне хору малодшых класаў (кіраўнік Н. Палявая). Годнасна завяршыў канцэрт узорны школьны хор — удзельнік і лаўрэат шматлікіх фестываляў, рэспубліканскіх конкурсаў. Яго выкананне супольна з ансамблем БВА песні «Буслы маленства» зачаравала залу.

В. САНЬКО.

## Хай будзе баль...

Б. ЦІШЫНА.

Н. ГАЛЕЕВА.

А. КЕДА.

Калядныя ды навагоднія канцэрты, прэм'еры ды прэзентацыі завяршалі год 91-шы. У Беларускай дзяржаўнай філармоніі, напрыклад, прайшла прэзентацыя фонду «Юныя таленты», пра стварэнне якога «ЛіМ» паведамляў ужо і першае прадстаўленне якога адбылося яшчэ ўвосень у Гомельскім музычным вучылішчы. Новую работу — «Джулія», мюзікл У. Кандрусевіча — паказаў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі Беларусі. Вялікі дабрачынны канцэрт наладзіў у зале на Залатой Горцы ансамбль салістаў «Класік-Авангард»...

А ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета 30 снежня разгарнуўся вялікі спектакль-баль, які трансліравала ў «жывым» эфіры Беларускае тэлебачанне. Госці балю — мінскія бізнесмены — адказвалі на пытанні журналістаў; у фае гралі музыканты, кружыліся танцавальныя пары. Было і шампанскае... А потым госці перайшлі ў тэатральную залу, дзе знакамітая «Сцэна з шампанскім» адкрыла перадnavagodnяе прадстаўленне «На нашай сцэне — аперэта».

Гэты маляўнічы спектакль-баль, падрыхтаваны артыстамі тэатра оперы і балета і іхнімі калегамі з тэатра музычнай камедыі (дырыжоры А. Анісімаў, С. Бурак, рэжысёр-пастаноўшчык С. Штэйн, вершы А. Вольскага, сцэнаграфія Л. Ганчаровай), змагло пабачыць і шырокае кола аматараў. Бо прэм'ера «На нашай сцэне — аперэта» з удзелам не толькі тых салістаў, якім напярэдадні Новага года апладзіравалі спонсары тэлевізійна - тэатральнага балю, а і іншых «зорак» музычнага небасхілу, пазначана на афішы.

13 студзеня, пад Стары Новы год, героі аперэт, увасобленыя Л. Станевіч ды А. Крайнікавай, Н. Галеевай ды В. Цішынай, Л. Лют ды Н. Кастэнкай, А. Ранцанцам ды Г. Казловым, В. Скорабагатавым ды М. Грыгорчыкам і многімі іншымі, — зноў выйшлі на оперную сцэну!

Фота А. ХАРКОВА.

ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

## На каляды — да суайчыннікаў

7 студзеня ў пастаянным прадстаўніцтве Рэспублікі Беларусь у Маскве адбыўся канцэрт старадаўняй беларускай музыкі. І не проста канцэрт. Ансамбль «Кантабіле» і саліст В. Скорабагатаў прывезлі суайчыннікам, што жывуць у Маскве, «кавалачак» леташняга фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». Спадар Скорабагатаў расказаў пра фестываль, пра яго перспектывы, пра гістарычную музычную спадчыну Беларусі. Гучала музыка М. Радзівіла, Р. Вардоцкага, «Полацкі сшытак», псальмы на вершы С. Полацкага... Маскоўскія беларусы, уражаныя незнаёмым мастацтвам, зацікавіліся наступным фестывалем, абяцалі падтрымку. А муж і жонка Кучуры, беларусы з Амерыкі, якіх бізнес прывёў у Маскву, не хавалі здзіўлення, маўляў, трэба ж: аказваецца, на Беларусі ў далёкіх стагоддзях была свая класічная музыка, ды такая прыгожая!

ЛІТКУР'ЕР

## Даражэйшае не сняданне, а прывітанне

У серыі «Проза народаў СССР» (народаў ужо колішняга Савецкага Саюза), якую выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура», пабачыў на самым прыканцы 1991 года том прозы вядомага ўкраінскага пісьменніка і грамадскага дзеяча Уладзіміра Яварыўскага «Марыя з палыном у канцы стагоддзя». Кнігу склалі аднайменны раман і аповесць «Вечныя Картэлісы», перакладзеныя на беларускую мову Вячаславам і Усеваладам Рагойшамі.

Раман «Марыя з палыном у канцы стагоддзя» — адзін з першых мастацкіх твораў, у якіх праўдзіва расказваецца пра чарнобыльскую катастрофу і пра першыя дні пасля яе. Было б яшчэ лепш, калі б ён пабеларуску выйшаў раней, але і цяпер, калі з раманам многія нашы чытачы ўжо знаёмыя па рускамоўным выданні, карысць ад кнігі немалая. Прыгадайма яшчэ адну прымаўку: «Даражэйшае не сняданне, а прывітанне».

У сённяшнім няўстойлівым свеце ўсё болей адчувальны дыктат рынку, і добра, што «Мастацкая літаратура» яшчэ знаходзіць магчымасць прапагандаваць лепшыя творы братніх літаратур.

КУЛЬТУРА

## Каб і іншыя...

Магілёўская універсальная біржа вырашыла хоць крыху дапамагчы аматарам прыгожага. Біржавікі пераявілі 1600 рублёў на рахунак мастацкага музея В. Бялыніцкага-Бірулі, і цяпер кожны жадаючы на працягу двух месяцаў можа бясплатна далучацца да хараства палотнаў знакамітага пейзажыста.

Каб жа такім шляхам пайшлі і іншыя дзелавыя людзі Рэспублікі Беларусь! Глядзіш і паболела б наведвальнікаў у нацыянальных музеях, наведванне якіх таксама пачынае абыходзіцца ўжо не ў капейку, а ў рублі.

## Будуць беларусазнаўцы і ў Афрыцы

Як бы там ні было, але Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь працуе. Аб яго выкананні дбаюць не толькі свядомыя беларусы, а і свядомыя замежныя студэнты, якія навучаюцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Прынамсі, тыя з іх, што мараць стаць журналістамі, — а гэта прадстаўнікі Лівана, Сірыі, Йемена, дзяржаў Лацінскай Амерыкі. Яны выказалі жаданне вывучаць беларускую мову. Кіраўніцтва факультэта журналістыкі пайшло ім насустрач. Для замежнага спадарства распрацаваны спецыяльны курс.

КОНКУРСЫ

## Значыць, лідэры!

Павіншуем з перамогай салістаў беларускай оперы Наталлю Залатарову ды Міхаіла Жылюка. Яны, як паведаміў інфармацыйны лісток ДАВТа «Закулисье», узялі ўдзел у І Міжнародным конкурсе оперных спевакоў імя С. Крушальніцкай, што прайшоў у Львове, і заваявалі другія прэміі. Перамогу можна лічыць абсалютнай, бо першых прэмій журы не прысуджала. Сярод канкурсантаў былі оперныя артысты з Расіі, Польшчы і, вядома, Украіны. Але за выкананне маналога Багдана Хмяльніцкага з оперы К. Данькевіча заахвочвальную прэмію пасля 1 тура атрымаў прадстаўнік Беларусі М. Жылюк. Яго ж адзначылі спецыяльным прызам за ролю Фігара ў спектаклі «Вяселле Фігара». Дарэчы, самі оперныя спектаклі для таго ці іншага фіналіста (умова III тура) выбірала журы. А з Н. Залатаровай адбылася і нечаканасць: член журы, венгерскі спявак, саліст Будапешцкай ды Міланскай оперы Й. Нэмет вызваўся быць яе партнёрам у спектаклі «Тоска».

## «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры»

Дзеля актывізацыі бібліятэк рэспублікі ў адраджэнні нацыянальнай культуры, прапаганды яе гісторыі і лепшых набыткаў Беларускі фонд культуры аб'явіў штогадовы конкурс пад дэвізам: «Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры». Пры падвядзенні вынікаў будзе ўлічвацца, як бібліятэка садзейнічае выкананню Закона аб мовах на Беларусі, што робіць па стварэнню і ўзбагачэнню нацыянальных фондаў; як праводзіцца асветніцкая работа па ўкараненню нацыянальных святаў і абрадаў; ушаноўваюцца лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай культуры; аказваецца садзеянне ў ажыўленні краязнаўчай работы па вывучэнні гісторыі роднага краю; праводзяцца прэзентацыі новых кніг беларускіх пісьменнікаў і вучоных, нотных зборнікаў і гуказапісаў беларускіх кампазітараў і выканаўцаў, твораў беларускіх мастакоў і народных умельцаў. Будзе звернута ўвага і на такія аспекты работы: стварэнне гасцёвень для сустрэчы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, цікавымі людзьмі і г. д.

Вылучэнне бібліятэк на атрыманне прэмій праводзіцца абласнымі і Мінскім гарадскім аддзяленнямі БФК, іншымі грамадскімі арганізацыямі, органамі ўпраўленняў культуры і іншымі дзяржаўнымі ўстановамі, сродкамі масавай інфармацыі, самімі калектывамі бібліятэк, якія пажадаюць прыняць удзел у конкурсе.

Пры вылучэнні бібліятэк на атрыманне прэмій прадстаўляюцца рашэнні грамадскіх і іншых арганізацый і ўстаноў, адміністрацыі бібліятэкі аб вылучэнні дадзенай бібліятэкі з даведкай аб рабоце бібліятэкі па адраджэнні нацыянальнай культуры. Дадаткова могуць быць прадстаўлены матэрыялы з апісаннем масавых мерапрыемстваў па прапагандзе нацыянальнай культуры: насценныя газеты, рукапісныя часопісы, фотавыстаўкі, фотамантажы, фатаграфіі інтэр'ера бібліятэк, водгукі чытачоў, матэрыялы пра бібліятэку, якія змешчаны ў газетах і часопісах, перададзеныя па радыё, паказаныя па тэлебачанні.

Прадстаўленні і матэрыялы накіроўваюцца ў абласныя і Мінскі гарадскі аддзяленні БФК да 1 лютага наступнага года. Рашэнні прэзідыума абласных і Мінскага гарадскога аддзяленняў БФК з адпаведнымі матэрыяламі накіроўваюцца ў Савет садзеяння бібліятэчнай справе БФК да 1 сакавіка на адрас: 220030, г. Мінск, вуліца Янкі Купалы, 17/30 (тэл. 27-76-95).

Па выніках конкурсу ўстанаўліваюцца тры прэміі па 5 тысяч рублёў кожная для дзіцячых і дарослых бібліятэк (публічных і школьных) з уручэннем дыпломаў. Дадаткова ўстанаўліваюцца 5 дыпломаў конкурсу.

Прысуджэнне прэмій праводзіцца па выніках кожнага календарнага года. Першае ўручэнне прэмій адбудзецца па выніках 1992 года.

Створана журы на чале са старшынёй праўлення Беларускага фонда культуры І. Чыгрынавым. Вынікі конкурсу зацвярджаюцца на прэзідыуме праўлення БФК да 15 сакавіка. Уручэнне штогадовых прэмій і дыпломаў праводзіцца 1 красавіка.

Гледзячы на ўсё гэта, хочацца сказаць: каб жыць у дастатку, трэба скупіцца і ашчаджацца. Багацце без ашчаднасці не бывае.

Ад учарашняга дня ў памяці застаўся рыжавата-няголены акардэаніст, што, паклаўшы кепку перад сабою, сядзеў каля шкляных дзвярэй універмага на сваім, мусіць, прынесеным з дому табурэціку і іграў даўнейшыя фокстроты. І флейтыст, малады рослы хлопец, чамусьці таксама няголены, у чорным святочным касцюме з чорнаю флейтаю ў пераходзе метро перад эскалатарам і сходамі. Гэты па-сапраўднаму стараўся, пакалыхваючыся і плаваючы локцямі—і ў футарал ад флейты, што ляжаў на цэментнай падлозе, сыпаліся пфенінгі. У акардэаніста кепачка пуставала.

Каля метро, каля людных месцаў — падземныя, а то часовыя вагончыкі-туалеты, і, дарэчы, бясплатныя. Платныя хіба ў метро і ў вялікіх універмагах. Здаецца, амерыканцы заўважылі: які туалет, такая і краіна.

На нямецкай хвалі (іншай не знайшоў) праз кожнае слова ў хрыпатага дыктара Ельцын—Гарбачоў, Гарбачоў—Ельцын.

Пакуль мы з Норбертам Рандавым 118-ым маршрутам дабіраліся з Ванзээ ў Даглен Дорф, азіраючы з другога паверха высокага аўтобуса, які з прысадзістых дубкоў збіваў жалуды, святочна-лагодны і зялёны Берлін, я дзівіўся, і ўжо не першы раз, з той дбайнай пашаны і павагі, якая ёсць у немцаў да травы, кветак і дрэў.

А ўжо ў Даглен Дорфе мяне зачаравала эпоха Адраджэння, нямецкі жывапіс, геніяльны Альбрэхт Дзюрэр і не толькі ён. Мы прайшлі ўсяго толькі два паверхі унікальнага музея. І я зноў захапляўся веліччу, разумнасцю, працавітасцю немцаў. Што рабілі мы, беларусы, ці па-старадаўняму ліцвіны, на пачатку 16-га стагоддзя? Будавалі замкі, пісалі, вядома, палотны, не пакінуўшы свайго Дзюрэра. А, можа, усё ж ён быў? Была ж у нас Літоўская метрыка—кнігі дакументаў Вялікага княства на беларускай мове, быў сусветна вядомы юрыдычны помнік—Літоўскі статут, быў ужо святы касцёл, а ў ім—алтары. Няўжо мы не распісвалі алтароў, крыжовую дарогу Хрыста? Вядома ж, распісвалі. Святы Божа, дык дзе ж беларускі Дзюрэр?

На вуліцы напаткаў чародку дзяўчат-падлеткаў у шэрых лёгкіх плашчыках, як ходзяць усе тут, і ў белых шаўкавістых хустках—турчанкі. Большая сярод іх, прыгожая, хавала пад насунутай на лоб хусткай свае чарнява-агністыя вочы.

У многіх берлінцаў, як прыкмячаю, чорныя вочы. Сінія дык зусім рэдкасць. Найбольш шэрыя, як на палотнах у Дзюрэра, бо яго папярэднікі—незнарок заўважыў у музеі—малявалі карыя вочы. Можа, гэта звязана з міфалагічнымі персанажамі? Але ж твары ў іх, і нават у Хрыста, яшчэ не кананізаваныя, звыклыя твары звыклых людзей, якія бачыш і сустракаеш у метро альбо на аўтобусным прыпынку.

А сёння доўга разгадваў, успамінаў і прыпамінаў прозвішча нашага местачковага чалавека, да якога так быў падобны дужы кірпаты і ружовашчокі немец, што, зайшоўшы ў вагон, цяжка сеў насупраць мяне. Тое ж самае надоечы адбылося з туркам, чарнява-сівым і кучаравым, які ўвесь час, пакуль мы ехалі разам, нагадваў мне нашых местачковых Мурзічаў, як падказвае прозвішча, дапёкіх беларускіх татар, хоць пішуцца яны, вядома, беларусамі.

А днямі дзве смуглявыя, валавокія маладзіцы, акуратненька, зграбна і чыста апранутыя ў плісіраваныя спадніцы і белыя блузкі, што зайшлі ў вагон, так ужо выразна нагадалі мне нашых вясковых матрун і вольгаў, што міжволі з ніякаватасцю падумалася: колькі ж у нас, у беларусаў, сапраўды чужое крыві?

(Заканчэнне будзе).

# ДЫРЭКТАР ТЭАТРА



**Памяці Леаніда Валчэцкага**

Горка гаварыць пра гэта... Сорамна прызнавацца ў гэтым... Крыўдна і за наш тэатральны Саюз... Зусім нядаўна мы даведаліся, што памёр Леанід Валчэцкі. «Нядаўна» — амаль тры месяцы назад. У тэатральным асяроддзі імя вядомае, па заслугах паважанае. Паклоннікі ж сцэнічнага мастацтва, гледачы, зразумела, далёка не заўсёды здагадваліся аб тым, што яны ўзрушаны і захоплены спектаклем, само з'яўленне якога і потым гучанне на падмостках — плён настойлівай, паслядоўнай, здаралася, і пакутлівай працы таго, хто застаецца недзе ў кулуарах. Дакладней — у сваім дырэктарскім кабінеце.

Амаль дваццаць пяць гадоў узначальваў Леанід Паўлавіч драматычны тэатр у Брэсце. Гэта ён запрашаў, прывозіў, уладкоўваў у горадзе над Бугам рэжысёраў з арыгінальным мысленнем і адметным творчым імпэтам—Іосіфа Папова і Юрыя Арынянскага, Паўла Вінаградава і Аляксандра Міронскага. Гэта ён натхняў на рэжысёрскія пошукі і пастановачную работу артыстаў Георгія Волкава і Пятра Маркіна, Мікалая Жыліна і Сяргея Еўдашэнку. Гэта ён пераадольваў пануючую тады ў пэўных вышэйшых колах пагарду да беларускай нацыянальнай драматургіі і дамагаўся ўключэння ў рэпертуар брэсцкай трупы п'ес К. Губарэвіча і А. Макаёнка, А. Маўзона і А. Дзялендзіка, П. Васілеўскага і Я. Рамановіча. Гэта ён прыцягваў да супрацоўніцтва з тэатрам вайсковых кансультантаў і літаратараў, тэатразнаўцаў і гісторыкаў, удзельнікаў абароны фартэцыі над Бугам у 41-м.

Вядома, што п'еса К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць» пад назвай «Цытадэль славы» не мела асаблівага поспеху. Нават у купалаўцаў. Заступіўшы на дырэктарскую пасаду ў Брэсце, Л. Валчэцкі адразу абвяшчае пра намер менавіта тут, паблізу ад гістарычнай крэпасці, ажывіць вобразы яе самаахвярных абаронцаў, хлопцаў, якія вымушаны былі амаль што без зброі, без спраўнага вайсковага кіраўніцтва супрацьстаяць навале вермахта.

Для яго героі крэпасці былі — хлопцамі. Сваімі. Блізкімі. Асуджанымі несці цяжкі крыж у жорсткіх выпрабаваннях вайны. Ахвярамі яе.

Леанід Валчэцкі сам быў з такіх хлопцаў.

Юнаком ён адчуў прызванне школьнага настаўніка і скончыў педагагічны тэхнікум. Ды было штосьці ў самой атмасферы тагачаснай школы, атручанай класавай ідэалогіяй, што стрымала яго ад службы па прафесіі. Яму прыкра было вучыць дзяцей таму, што Яўгеній Анегін — гэта «прадукт дваранскай эпохі» і «лішні чалавек», а піянер Паўлік Марозаў — гэта ўзор сапраўднага сына сацыялістычнай дзяржавы. Яму мроілася ў тэатры пэўная свабода для праўдзівага паказу жывога чалавека, з яго памылкамі і забабонамі, з яго адданасцю высокім ідэалам і маральнай чысцінёй. У 1933 годзе Валчэцкі закончыў курс тэатральнай студыі пры Другім БДТ. Першы сярод яго настаўнікаў — М. Міцкевіч, якому былі дарагія этычныя і маральныя прынцыпы ў мастацтве, пераняныя ад педагогаў - паплечнікаў рыцара сцэны М. Чэхава.

Гэта было пакаленне людзей, якое паверыла ў справядлівасць камуністычнай перабудовы свету. Бянтэжылі жорсткасць і рэпрэсіі супраць самастойнай думкі, пагарда да агульначалавечых каштоўнасцей, прымусовая калектывізацыя, даносы на сяброў, партыйнымі сходамі і натоўпам абвяшчаемы праклён у адрас учарашніх ленінцаў, але... Людзі тэатра, накшталт таго ж М. Міцкевіча, адносілі гэта на рахунак выдаткаў і часовых памылак новага грамадства. І ў тэатральнай дзейнасці Л. Валчэцкага можна адзначыць праявы гэткай артадаксальнай і агульнапрынятай пазіцыі савецкага патрыёта...

Пачаўшы сцэнічную работу акцёрам, Л. Валчэцкі набываў карысны вопыт паглыблення ў чалавечыя характары, якія не ўкладваюцца ў пракрустава ложа ідэалагічных догм. Сярод ягоных роляў самай яркай і маляўнічай была роля Керубіна ў «Жаніцьбе Фігара» паводле Бамаршэ (спектакль рэжысёраў П. Антакольскага і М. Міцкевіча 1933 года). Малады акцёр займаецца самаадукацыяй, цікавіцца арганізацыяй тэатральнай справы наогул.

Ды зусім іншы вопыт стаў яго чалавечым багаццем. Горкі і павучальны. Яго прызываюць у армію. Пачатак вайны ён сустракае даволі спрактыкаваным камандзірам. Узначальвае запасную вайсковую часць, якая рыхтуе для фронту кавалерыстаў. Так, яшчэ ў сорак другім годзе падначаленыя Л. Валчэцкаму вучаць маладых людзей секчы шашкамі праціўніка... у конным страі. Загад ёсць загад! Ды мала таго, што будучыя кавалерысты павінны былі потым атакаваць танкавыя калоны таго ж Гудэр'яна або Манштэйна, дык іх яшчэ і вучылі ваяваць на конях, асядланых... мяхамі з саломай. Сёдлаў скураных, сапраўдных не хапала для запасных тылавых эскадронаў. Яшчэ больш драматычным было зведанне і перажытае на фронце...

Мы сябравалі з Леанідам Валчэцкім. І тады, калі аповяд пра такія жыццёвыя ўрокі нельга было даверыць нават прыяцелю. Запаветнае прарывалася ў асобных заўвагах, як бы мімаходзь. Часцей дырэктар тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі выступаў і выглядаў прававерным чалавекам свайго часу. Адданым тэатру. Слугой тэатра. Дзеля гэтага свайго прызвання гатовым і на кампраміс. Толькі б не губляў калектыў артыстаў годнасці сапраўднага, вартага ўвагі сучаснікаў, нават патрэбнага суразмоўцы з гледачом! Пасада дырэктара была надзвычай палітызаваная, бо рабіла носьбіта такога звання яшчэ і старшынёй мастацкага савета тэатра, адказным за рэпертуарную палітыку.

Нам даводзілася бачыць Валчэцкага вельмі засяроджаным. Пры ўсім ягоным умельстве хаваць свае перажыванні, ён не мог утаймоўваць свайго ўнутранага напружання, з якім яму даваліся тыя або іншыя праграмныя прамовы на абмеркаванні прэм'ер або новых п'ес. Ды штосьці па-дзіцячы адкрытае свяцілася ў ім, калі трупа ў Брэсце ўздымалася вышэй за афіцыйна дазволеныя дозы сцэнічнай праўды, калі артысты на падмостках паказвалі чалавека з усімі яго супярэчнасцямі ў камедыях «Выбачайце, калі ласка!», «Трыбунал», «Таблетку пад язык» або «Зацюканы апостал», якія Андрэй Макаёнак перадаваў Валчэцкаму адначасова з першымі чытаннямі сваіх п'ес у купалаўцаў. Ганарыўся ён тым, што ў Брэсце набылі мастацкае ўвасабленне шэкспіраўскі «Атэла» і вострая п'еса Г. Фаста «Трыццаць срэбранікаў», «Тры сястры» А. Чэхава і гарэзлівае «Вяселле з пасагам» М. Дзякава, трагедыйная песня ў гонар дзяўчат на вайне «А досвіткі тут ціхія» Б. Васільева і псіхалагічнае даследаванне вернасці і здрады ў драме «Толькі адно жыццё» А. Маўзона...

Не абміналі Л. Валчэцкага асабістае гора і паклёпы зайздроснікаў, закулісныя інтрыгі і — радзей — удзячнае прызнанне ў аўтарытэтных аўдыторыях. Артыстычная трупа з Брэста гастралявала ў Маскве і Ленінградзе, у Кіеве і Вільнюсе. Па ранейшай завядзёнцы гэта таксама было прыкметай творчай сталасці. І ёю мог ганарыцца Валчэцкі. Затое як балюча перажываў ён за лёс добрага акцёра, якому не было адпаведнай таленту ролі ў чарговай прэм'еры, або за экзальтаваныя гнеўныя філіпікі, што прамаўлялі, здаралася, артысты, не ведаючы, хто і якая «інстанцыя» абавязалі, якія прычыны вымушаюць тэатр на кампраміс, чым выклікаецца неабходнасць ставіць танныя опусы таго ж злашчаснага А. Сафронава...

Адным словам, быў у Брэсце тэатр, варты ўвагі і павагі. Варты і спачування. Былі спектаклі, дзе да рампы прабівалася сапраўдная рэчаіснасць. Была і вымушаная хада ў тым поступе, які зацвярджаўся ў міністэрскіх кабінетах, у будынках абласнога і гарадскога камітэтаў камуністычнай партыі. Былі ў рэпертуары чыстыя зерні вялікай літаратуры і палова дзяжурных і нават модных агітак і так званых манументальных палотнаў гераічнай тэматыкі.

Сёння мы пачынаем жыць у зусім новым духоўным клімаце. Блякнуць былыя зоркі, узыходзяць новыя. Ды было б вялікім грахом адцурацца ад таго высакароднага і сур'ёзнага, чым жывіла і ўзбагачала сучаснікаў сцэна, — то «дзякуючы сваёй адданасці часу», то «насуперак» абставінам і заклікам розных начальнікаў ад мастацтва. І мы адчуваем віну перад адным з паслядоўных слуг тэатра на Беларусі Леанідам Валчэцкім за тое, што ні наша тэатральная грамадскасць, ні ягоныя сябры ў Мінску ў мітусні і гармідары неўладкаванага нашага існавання не заўважылі і не аддалі належнае памяці гэтага чалавека. Ён быў прадаўжальнікам карысных традыцый. Ці не абрываюцца яны адначасова з вызваленнем ад канфармізму?

**Барыс БУР'ЯН,**
**Георгій КОЛАС.**



Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міколу ВАДАНОСАВУ з прычыны вялікага гора, што напаткала яго, — смерці жонкі Галіны Валянцінаўны.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю ЯСКЕВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці маці.

Саюз пісьменнікаў Беларусі з глыбокім жалем паведамляе аб смерці вадзіцеля СПБ ПАЛУЯНА Мікалая Фёдаравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

## Штукар

Жыў штукар, ды знакаміты—
З пустасловаў пустаслоў:
Языком—ён сеяў жыта,
Языком—яго малоў.

Цеста ён з хлусні замешваў,
Не адну дзяжу зглуміў.
Родных дзетак — нават смешна! —
Абяцанкамі карміў!

Замаўляў ён людзям зубы,
Замаўляў да нематы.
Быў яшчэ занятак любы—
Плёў штукар кашы з лухты.

Плёў іх «мудра», плёў іх дбала,
Ды карысці не дало:
Што б у кош той ні трапляла —
У ім нібыта й не было!

Каб народ ад дзіва войкаў,
Дахі ён паперай крыў.
І настойку, і застойку
Ад хвароб усіх варыў.

Звычку меў: у госці пойдзе—
Медалёк прывалачэ...

Жыў штукар... не-не, пастойце:
Можа, ён жыве яшчэ?

## Стратэгія

### З народнага

Загрымеў усохлы ганак,
Хтось «Дзень добры!» і ў хату даў:
Да Лявона нечакана
Кум у госці завітаў.

Госць у хаце —
Гэта ж свята
І ў душы, і на стале...
Дастае абрус Агата,
Строі з куфра дастае.

Як вядзецца,
Да кубельца
Заспяшалася у склеп.
Адазваліся відэльцы,
На абрус улёгся хлеб.

За бутэлькай —
З шафы чаркі
Перабраліся на стол.
Усчала яечня сварку —
Ля патэльні хоць не стой!

А пасля — цякла бяседа,
Дагаджалі ёй усе.
За яечняй —
Чаркі следам
Апусцелі пакрысе.

Нечакана гаспадыня
Песню ў хаце завяла,
А Лявон па той хвіліне—
Ш-шух за дзверы
З-за стала!

Госць сканфужаны, здзіўлёны,
Пачакаў—ды ўслед за ім...
Гаспадар сядзеў пад клёнам
І пускаў з цыгаркі дым.

— Што, у вас разлад з Агатай?
Не магу я зразумець:
Ты чаму ўцякаеш з хаты,
Як пачне кабета пець?

І Лявон прызнаўся куму:
— Цягу я на двор даю,
Каб ніхто не мог падумаць,
Што я ў хаце жонку б'ю.

## ПЕКЛА

Калі мяне пасля заканчэння інстытута размеркавалі ў НДІ, я быў шчаслівы, як малады сабака, якога ўпершыню выпусцілі гуляць у поле. Яшчэ ў студэнцтве былі ў мяне думкі, якія хацелася некалі ажыццявіць. І вось зараз, у НДІ, я бегаў па бібліятэках, корпаўся ў замежных каталогах, чытаў спецыяльную літаратуру. Я адчуваў сябе «на сёмым небе». Прайшоў час, я сістэматызаваў звесткі, доказы, думкі і пайшоў да шэфа. Ён паглядзеў, пагартаў мае «опусы», потым нядбайна адштурхнуў ад сябе папку з паперамі, якімі я даражыў больш за ўсё на свеце.

— Малады чалавек! Я — доктар навук, прафесар, працую ў інстытуце паўвека. Бачыў, як ствараюцца вынаходствы, сам нешта ствараў, мне стваралі... Але ж не ў вашым узросце! Вы не лезьце раней бацькі ў пекла. Пажывіце з маё, тады ўжо... А пакуль у вас яшчэ малако на губах не абсохла, вучыцеся ў старэйшых...

І старэйшыя пачалі мяне вучыць.

— Толя! Пойдзеш у бібліятэку, папрацуеш пару тыдняў: мне для маёй доктарскай патрэбны некаторыя звесткі, а самому няма часу...

— Толя! Збірайся заўтра ў камандзіроўку: трэба выбіць некалькі камп'ютэраў...

— Толя! Я чуў, у цябе ёсць вадзіцельскія правы? Мой шафёр захварэў. Трэба арганізаваць рыбалачку ў выхадныя...

— Толя! Сын жаніцца надумаў. Тут я дамовіўся каньячку. Бяры маю машыну і шуруй.

— Толя! Унук у мяне нарадзіўся! Сёння еду ў раддом. Вось грошы, скокні на базар і — кветак, самых лепшых!

— Толя! Сёння дзень нараджэння маёй палавіны. Садзіся ў маю машыну, шафёру скажы, каб павазіў па магазінах — добры падарунак «намалюй». Грошай не шкадуй, колькі трэба, вось тут...

І я «выбіваў», «падкідаў», «скакаў», «маляваў», «шураваў»... І гэтак далей. Калі на галаве праяснілася лысіна, шэф мяне спыніў. Ён, верны свайму абяцанню, «падкінуў» мне маладых, працавітых хлопцаў. І сталі ўжо яны дзеля мяне «скакаць», «падкідаць», «шураваць», працаваць... Зараз і я ўжо доктар навук, прафесар. Нават жонка, між намі кажучы, шэфава дачка, кліча мяне Анатоль Віктаравіч...

Усё ў мяне ў ажуры. Толькі часам прачнуся ноччу ў халодным поце ад вокрыку шэфа: «Толя! Ты чаму мне венік у лазню не прынёс?!» Ці яшчэ што такое...

А так — усё добра, як мае быць! Заўтра шэфу ўкінем чорныя шары — трэба і мне ўжо на арбіту выходзіць...

М. НІКІЦКАЯ.

## ЛІРАНІЗМЫ

Вершы ў позе.

□

Выдаць на... гора.

□

Выдаецкая дзейнасць.

□

Абварыйная служба.

□

Хімхапсаюз.

□

Сончасць.

У. ЦІМУРАЎ.

## РЭПКА

### Не казка, а быль

Пасадзіў дзед рэпку. Вырасла рэпка вялікая-вялікая. Пайшоў дзед ірваць рэпку, цягне-пацягне — выцягнуць не можа.

Паклікаў дзед на дапамогу бабку...

І ў такой паслядоўнасці, як і ў казцы, аж да мышкі.

Пазвала кошка мышку. Прыбегла мышка, хвосцікам віхлянула, піскнула, войкнула:

— Ой-вой!.. Навошта нам тужыцца, надрывацца?!. Створым лепей якую канцэсію з замежнай фірмай...

Пачалі ствараць тую канцэсію. А пакуль рэпку, дый бульбу — сырую і вараную — возяць то з Польшчы, то яшчэ далей адкуль. Дзедку як дзедку, а мышцы хапае.

І. АНОШКІН.

Міхась СКОБЛА

## А ЯМУ І НЯЎЦЯМ

Ты разумееш не заўсёды
Душу складаную маю.
Няўцям табе, чаму я згоды
На творчы вечар не даю.

У. СКАРЫНКІН.

Сышліся ўсе як ёсць народы
Пад рэзідэнцыю маю.
А я заўпарціўся і згоды
На творчы вечар не даю!

Ля ўсіх дзвярэй пасталі шустра
З усіх рэспублік хадакі,
Як быццам Бог ці Заратустра,
Ці Ленін тут жыве які!

Стаяць маўкліва, як манахі,
Стаяць цярпліва месяц, год.

Нарэшце лахі я пад пахі,
Пайсці намерыўся ў народ.

Душа складаная кіпела.
Без розных там ха-ха, хі-хі
Пяро ну столькі нарыпела —
Хоць расфасоўвай у мяхі!

Прыемна ў гэткае павазе...
Ажно датумкаў пакрысе,
Што лепш, каб я і не вылазіў,
Чаго й сабраліся усе.




— Менавіта такога рукапісу мне і не хапае!!!

Мал. А. ПАПОВА.

Аляксандр КАПУСЦІН

## У ЛАЗНІ

Усе мы наіўна думалі, што самы непалітызаваны орган у нас зараз — Вярхоўны Савет. Ды дзе там — лазня! Во дзе палітыка!

Раздзявалка гула, нібы растрывожаны вулей.

— Давялі за семдзесят гадоў краіну камуністы! Да ручкі дабілі!

— Каб жа хоць дэпутаты былі, як трэба. А то навыбіралі гаваруноў. Што камуністаў, што з народнага фронту.

— Усіх камуністаў — пад суд,— глуха прагугнявіў распараны лысы таўстун, нагбом пакаўтаўшы піва з трохлітровага слоіка.— І прыгавор такі: забараніць нават думаць пра той камунізм, якога ніхто не бачыў і не пабачыць. Хай думаюць, калі хочуць жыць, як людзям бізнесменамі ды фермерамі стаць. Гэта ім не камуністычны рэжым — дэмакратыя.

— Учора па тэлевізары з Санкт-Пецярбурга паказвалі: Пятру Вялікаму, бацьку Айчыны — віват! — уставіў сваё даўгалыгі хударлявы стары, квола расціраючы ручніком упалыя грудзі.— Расію ўздыбіў!

— А тым, што сёння Расію ўздыбілі, таксама віват? — саркастычна азваўся аднекуль з кутка хрыпаты голас.

— Некаторым сённяшнім слава, а некаторым — страшны суд гісторыі. — Мацак з чупрынай, вусамі і барадой разначынца мінулага веку накінуў прасціну на крутыя тлустыя плечы і ажно страсянуў вакол сябе паветра: — Ху-у!

— За якія ж грахі ім страшны суд? — падкінуў яму каверзнае пытанне хрыпаты голас.

— За перараджэнства і здраду, якіх не ведаў свет. — Ху-у!

— Даруйце, спадар-таварыш, але гэта задужа, — прадрынкалі, як на балалайцы, упалыя грудзі.

— Ты, кудлаты Маркс, цішэй на паваротах. Не распускай язык, а то...— Лысы не паспеў дагаварыць, тоўстыя губы зноў прыпалі да слоіка з півам.

— Што цішэй, што? Чалавек ад прыроды істота свабодная. А нас прывучыў сталінска-брэжнеўскі рэжым: як што — кулаком у храпу.

— Ага, у храпу,— пацвердзілі ўпалыя грудзі.

— Вунь у Амерыцы!.. Можаш падысці да Белага Дома і гарлапаніць, пакуль не пасінееш: «Прэзідэнт дурань! Прэзідэнт дурань!» От гэта дэмакратыя!.. А я ў лазні не магу сказаць, што хачу?

— Чый прэзідэнт? — ціскануў сваё голас з кутка.

— А гэта пытанне. Там не растлумачваюць.

— Дык і ў нас жа цяпер дэмакратыя.

— Правільна, і ў нас цяпер гавары, што на язык просіцца. А ён — цішэй на паваротах... — Разначынец распаляўся. — Паэт што некалі казаў? «Што я жыці буду, як птушка, як вецер над нівай квяцістай...» Даслоўна!

Да яго падышоў рыжагаловы таўстунок, ветліва ўсміхнуўся:

— Правільна, шаноўны, правільна: як птушка, як вецер... Як ваша прозвішча?

Раптоўна ў раздзявальцы ўсталявалася цішыня, пра якую кажуць: «Ціхі анёл праляцеў ці дурань нарадзіўся?..»

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.



Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12